*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

**№ 5 (4754) 31 студзеня 2014 г.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК

**Да XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу**






*Выхаванцы дзіцячага садка № 434 г. Мінска.*

*ФотаКастуся Дробава*

## Пунктырам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў навуковую грамадскасць з Днём беларускай навукі і 85-годдзем Нацыянальнай акадэміі навук краіны. «Навука стварае надзейны інтэлектуальны фундамент беларускай дзяржавы, вызначае шляхі нашага руху наперад. Імёны і дасягненні выдатных вучоных з'яўляюцца прадметам гонару ўсяго народа», — падкрэсліў Прэзідэнт. «Нацыянальная акадэмія навук за гады сваёй гісторыі ператварылася ў буйнейшы даследчы цэнтр краіны, які вырашае не толькі фундаментальныя, але і прыкладныя праблемы, карыстаецца аўтарытэтам у свеце», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы падпісаў распараджэнне «Аб назначэнні стыпендый Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь таленавітым маладым вучоным на 2014 год». Штомесячныя стыпендыі ў памеры 3 млн. рублёў атрымаюць 90 маладых навукоўцаў, у тым ліку 10 дактароў навук ва ўзросце да 45 гадоў, 47 кандыдатаў навук да 35 гадоў, 33 вучоныя без ступені да 30 гадоў. У групу стыпендыятаў уключаны перспектыўныя даследчыкі, якія атрымалі вынікі, што маюць істотнае навуковае і практычнае значэнне.

✔ Беларускія і расійскія даследчыкі завяршаюць працу па стварэнні фундаментальнай манаграфіі «Вызваленне Беларусі. Перамога. Трагедыя. Памяць» да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Манаграфія распавядзе пра падзеі на тэрыторыі рэспублікі падчас Другой сусветнай вайны, пра дапамогу вайскоўцам з боку партызан і мірных грамадзян. Выданне аналізуе крыніцы, якія раней не выкарыстоўваліся, а таксама прапануе чытачам унікальныя фотаздымкі.

✔ Паводле дырэктара дэпартамента па турызме Міністэрства спорту і турызму Вадзіма Кармазіна, ужо ў лютым для зручнасці гасцей чэмпіянату свету па хакеі будуць скарэкціраваны графікі работы музеяў ды іншых асноўных турыстычных аб'ектаў Мінска. Карэкціроўка ў кожным выпадку адбудзецца індывідуальна.

✔ Старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў падчас сустрэчы з ваяводам Падляскім Мацеем Жыўна (Польшча) паведаміў, што ўжо сёлета, на пачатку верасня, плануецца завяршыць работы па рэстаўрацыі маёнтка Агінскіх у вёсцы Залессе Смаргонскага раёна. Рэстаўрацыя пачалася ў 2011 годзе. Работы фінансуюцца са сродкаў дзяржаўных праграм з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў, а таксама са сродкаў ЕС — у адпаведнасці з праектам трансгранічнага супрацоўніцтва.

✔ Пачаўся прыём заявак на ўдзел у конкурсах XXIII Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». У адборы могуць удзельнічаць выканаўцы, якія маюць досвед выступленняў на розных канцэртных мерапрыемствах, а таксама паспяхова праявілі сябе на рэспубліканскіх і міжнародных музычных конкурсах. Узроставыя рамкі для XXIII Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2014» — 18 — 31 год, для XII Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу «Віцебск-2014» — 7 — 12 гадоў. Заяўкі на ўдзел у адборачных турах прымаюцца да 15 сакавіка ўключна.

**Падрыхтавала Іна ЛАЗАРАВА**

## Пытанне да творцы

# Якія кнігі вы чыталі ў дзяцінстве?



**Віктар Маючы, галоўны дырэктар дырэкцыі тэлеканала «Беларусь 3»:**

— Я рана навучыўся чытаць, гады ў чатыры. Чытаў «Дзядзю Сцёпу» і іншыя кніжкі з тых, што бацькі чытаюць дашкольнікам. Падлеткам чытаў прыгодніцкую літаратуру: «Рабінзона Круза», раманы Майн Рыда і Фенімора Купера. Існаваў, дарэчы, дэфіцыт кніг, таму чытаў тое, што і ўсе. Бліжэй да старэйшага школьнага ўзросту дзякуючы маці (настаўніцы мовы і літаратуры) пазнаёміўся з савецкай ваеннай літаратурай не зусім фармальнага кшталту: В. Ліпатаў, Ю. Бондараў, В. Быкаў… Крыху пазней захапіўся У. Караткевічам і вельмі шкадую, што адкрыў яго для сябе досыць позна.



**Уладзімір Пракапцоў, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея:**

— Зачытваўся кніжкамі пра юных беларускіх партызан, вельмі любіў аповесць Міхася Лынькова «Міколка-паравоз». У той час існавалі выдатныя радыёпастаноўкі для дзяцей — менавіта так я пазнаёміўся з «Палескімі рабінзонамі» Янкі Маўра. Кніжку адшукаў у бібліятэцы ўжо потым. Памятаю, як у старшых класах праходзілі «Як гартавалася сталь» А. Астроўскага: кніг на ўсіх не хапала, даваліся ісці за 7 кіламетраў у суседнюю вёску да знаёмых, начаваць там у бабулі… Выдатны быў час: кніг бракавала, але іх шанавалі, імі жылі.

У дзіцячых кніжках вельмі любіў ілюстрацыі да «Мыйдадзіра» і іншых твораў К. Чукоўскага. Найвышэйшы плітаж! Для дзяцей нашмат цяжэй, чым для дарослых, ілюстраваць кніжку, стварыць апавяданне ці казку. Той, хто здольны на гэта, варты вялікай павагі!



**Уладзімір Карызна, пісьменнік, аўтар слоў Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь:**

— Маё знаёмства са Словам пачалося не з кніг — з песень, якія спявала бабуля, прадучы воўну, з яе ж казак. І песні, і казкі, здаецца, захоўвалі адзін і той жа рытм, гучалі нібы сатканыя — з воўны і кужалю, з сонечных промняў. Памятаю маміны песні ў вайну: яна спявала іх, каб мы, галодныя, не плакалі, каб сядзелі ціха, калі трэба было хавацца ад немцаў у балоце падчас блакады. Народная душа, цяпло гэтых песень сцішвала нас, ратавала, здаецца, ад болю ў халодных ножках. Мае вершы — адтуль, з тых часоў…

Калі пасля вайны пайшоў у першы клас, да мяне трапіў «Буквар». Потым — «Роднае слова» з творамі нашых волатаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Захапляўся «Хлопчыкам і лётчыкам» — лётчыкаў я ўяўляў, гэта было жывое і сваё. «Міхасёвы прыгоды», здаецца, таксама былі пра нас. Пазней чытаў «Палескіх рабінзонаў» Янкі Маўра — прыклад мужнасці, сілы, рамантыкі. А якая там прыгажосць!.. Павінен сказаць, што і сучасная дзіцячая літаратура ў нас вельмі моцная.

Кніга для мяне як маці і бацька, якія выхоўваюць і даюць веды, вучаць думаць і быць чалавекам.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Расклад на юбілейны год

**На прэс-канферэнцыі, прысвечанай дзейнасці Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня СПБ Мікалай Чаргінец распавёў пра вынікі мінулага года, а таксама падзяліўся планамі на 2014-ы.**

За 80 гадоў існавання Саюз пісьменнікаў перажыў шмат змен. Юбілейны год дапаможа падвесці пэўныя вынікі. Летась членамі СПБ выдадзена больш як 180 кніг, за апошнія два гады членамі саюза сталі 75 творцаў — нягледзячы на досыць нізкія ганарары, званне пісьменніка застаецца прывабным. Аднак планка не апускаецца — каля сотні прэтэндэнтаў за гэты час атрымалі адмову. Пры падтрымцы Кіраўніка дзяржавы пісьменнікі змаглі нагадаць пра сябе ва ўсіх самых аддаленых кутках краіны.

— Падчас гэтых паездак нашы аўтары збіраюць матэрыялы для наступных кніг — некаторыя ўжо рыхтуюцца да друку. Сустракаючыся з моладдзю, пісьменнікі мусяць адказваць на пытанні пра становішча ў эканоміцы, палітыцы, выказваць уласныя думкі і меркаванні, — адзначыў кіраўнік творчай арганізацыі.

Акрамя таго, Мікалай Чаргінец паведаміў журналістам, што пісьменнікі самі парупяцца пра тое, каб паведаміць пра сябе. Два разы на год саюз будзе рыхтаваць адпаведны дайджэст, прысвечаны дзейнасці СПБ і кнігам, выдадзеным членамі арганізацыі. — У нас ёсць цудоўныя аўтары — у тым ліку маладыя, — падкрэсліў Мікалай Іванавіч. — Іх трэба чытаць!

Як адзначыў першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, у творцаў — шырокія магчымасці: часопісы «Полымя» і «Нёман», а таксама «Маладосць», якая зарыентавана на маладых аўтараў. Саюз пісьменнікаў саюзнай



Фота Кастуся Дробава

дзяржавы Беларусі і Расіі выдае часопіс «Белая вежа». Дарэчы, у ім можна друкавацца на дзвюх мовах — рускай і беларускай.

На XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ва ўсіх аматараў літаратуры будзе магчымасць пабачыць творцаў на ўласныя вочы, прычым і айчынных, і замежных. Паводле галоўнага рэдактара часопіса «Нёман» Алеся Бадака, традыцыйна ў беларускую сталіцу завітаюць госці з самых розных краін. А «ЛіМ», як адзначыла яго галоўны рэдактар Таццяна Сівец, распавядзе сваім чытачам пра самае цікавае!

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

*Прэміі*

# Дзеля будучыні

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі заснавала новую штогадовую літаратурную прэмію «Адкрыццё года». Яна будзе прысуджацца маладым літаратарам сталіцы ва ўзросце да 30 гадоў за найбольш адметныя творы, апублікаваныя ў літаратурна-мастацкіх выданнях або асобнай кнігай. Вылучэнне твораў на Прэмію за 2013 год працягваецца да 25 сакавіка 2014 года. Права вылучэння маюць рэдакцыі літаратурна-мастацкіх выданняў, выдавецтвы, літаратурныя музеі, бібліятэкі, творчыя арганізацыі. Для гэтага неабходна падаць пісьмовую заяўку і самі творы ў трох экзэмплярах. На Прэмію могуць быць вылучаны творы самых розных жанраў: проза, паэзія, драматургія (пастаўлены спектакль) літаратуразнаўства і крытыка, дзіцячая літаратура, пераклады, публіцыстыка.

Рашэнне аб прысуджэнні Прэміі будзе прымаць экспертны савет МГА СПБ. Лаўрэату акрамя грашовай прэміі будзе ўручацца спецыяльны дыплом.

Урачыстае ўручэнне прэміі «Адкрыццё года» адбудзецца 23 красавіка 2014 г., у Сусветны дзень кнігі і аўтарскага права, у адной з устаноў культуры г. Мінска.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ**

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб абласным літаратурным конкурсе, прысвечаным 70-годдзю вызвалення Брэсцкай вобласці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

Конкурс праводзіцца Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і філалагічным факультэтам Установы адукацыі «Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна» сумесна з упраўленнямі ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі, а таксама адукацыі, спорту і турызму Брэсцкага аблвыканкама з мэтаю выяўлення літаратурна-творчых талентаў навучэнцкай моладзі і падтрымкі маладых літаратараў Брэстчыны.

Узроставая катэгорыя ўдзельнікаў конкурсу: да 30 год. Колькасць месцаў: 6 (1 першае, 2 другіх, 3 трэціх).

Журы, у склад якога ўваходзяць вядомыя пісьменнікі, вучоныя-філолагі, літаратурныя крытыкі, выдаўцы і грамадскія дзеячы Брэстчыны, вызначыць лепшыя творчыя работы.

Пераможцы ўзнагароджваюцца дыпломамі і прызамі. Лепшыя творы (проза, паэзія, эсэ, драматургія) будуць апублікаваны. Конкурсныя работы дасылаюцца да 10 кастрычніка 2014 года на адрас: 224013, г. Брэст, пр-т Машэрава, 75/1, к. 605, Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, з пазнакай «На конкурс» або на эл. адрас: *krejdzich@tut.by.*

Вынікі конкурсу будуць падведзены да 1 лістапада 2014 года.

Конкурсныя работы павінны быць выдрукаваны на адной старонцы папяровага аркуша (фармат А-4). Агульны аб'ём работы не павінен перавышаць 3 (трох) лістоў фармату А-4.

На тытульным лісце неабходна ўказаць: прозвішча, імя, імя па бацьку, дату нараджэння, месца працы або вучобы, адрас для перапіскі, кантактныя тэлефоны, электронная пошта (калі ёсць).

Работы, дасланыя пасля ўказанага тэрміну, не разглядаюцца. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

*Заслаўе-2014*

# Толькі нацыянальнае!

**Традыцыйным стала свята музыкі ў Заслаўі, якое праводзіць Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пры падтрымцы Мінскага аблвыканкама і Мінскага гарвыканкама.**

Сёлета «Заслаўе-2014» пачалося з абласнога конкурсу юных выканаўцаў па класе фартэпіяна дзіцячых школ мастацтваў «Заслаўскі сшытак». Пасля ладзіўся канцэрт беларускай харавой песні, а таксама майстар-клас са знакамітымі музыкантамі.

А прадстаўнікоў СМІ чакала прэс-канферэнцыя з удзелам народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі Саюзнай дзяржавы, ганаровага грамадзяніна Мінскай вобласці прафесара Міхаіла Фінберга. Творца адзначыў: «Мы робім фестываль музыкі ў Заслаўі сціпла, але якасна і ад шчырага сэрца. Сюды з'язджаюцца



Фота Анатоля Клешчука

таленавітыя дзеці, якія выконваюць цудоўныя творы. І галоўнае — толькі нацыянальныя! Трэба ставіцца да гэтага з вялікай павагай».

Пасля прэс-канферэнцыі свята музыкі зноў перамясцілася ў дзіцячую школу мастацтваў, дзе адбылося адкрыццё выстаўкі «Беларускі краявід», якая прадставіла гледачу работы беларускага мастака-жывапісца Аляксандра Грышкевіча.

Напрыканцы свята гасцей чакаў вялікі канцэрт сучаснай песні з удзелам лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў.

**Вольга КУХАРСКАЯ**

# За неардынарнасць

Пад дэвізам «За маральныя ідэалы, за ўзвышэнне душы чалавека» прайшоў IV Міжнародны славянскі літаратурны форум «Золотой Витязь». Гэтым разам — у старажытным Суздалі, куды прыехалі пісьменнікі з розных рэгіёнаў Расійскай Федэрацыі, а таксама з Беларусі, Украіны, Балгарыі, Сербіі, Грузіі. Конкурс праходзіў у два этапы па пяці намінацыях: «Проза», «Паэзія», «Публіцыстыка», «Літаратура для юнацтва» і «Дэбют». Экспертны савет, у які ўваходзілі вядучыя літаратурныя крытыкі і вядомыя пісьменнікі, разгледзеў больш як сотню твораў рознага жанру. Пасля ў так званы кароткі спіс увайшла чвэрць з іх, а ўжо з яго міжнароднае журы і выбрала лепшых.

Сярод пераможцаў у намінацыі «Літаратура для юнацтва» — член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ірына Лявонава (Ганна Лео). Прызам «Бронзовый Витязь» і Дыпломам адзначана яе кніга апавяданняў і эсэ «Одарённые натуры», што выйшла ў Маскве ў Выдавецка-паліграфічным аб'яднанні «У Никитских ворот». Гэтая кніга пісьменніцы, як і іншыя яе творы, вызначаецца пільнай увагай аўтара да ўнутранага свету чалавека, уменнем праз нечаканыя сітуацыі паказваць неардынарных людзей.

**Арцём РОСЛІК**

# Суполка маладзее

Спіс сяброў Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі папоўніла студэнтка Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Алёна Дзебіш. Яна цяпер самая маладая ў суполцы і адна з самых маладых у СПБ.

Піша прозу і вершы на рускай і беларускай мовах. Творы друкаваліся ў беларускіх, расійскіх, украінскіх газетах і часопісах. А таксама ўваходзілі ў склад калектыўных зборнікаў «Адкрыццё» (Брэст, «Альтэрнатыва», 2008), «Дзеці пішуць для дзяцей» (Мінск, «Адукацыя і выхаванне», 2011), «Дзень Янот» (Новасібірск, 2011), «Вясёлка» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 2012).

З 2004 года Алёна паспяхова ўдзельнічае ў розных конкурсах і фестывалях літаратурна-мастацкай творчасці. Двойчы ўдастойвалася ўвагі Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў за перамогі на міжнародных і рэспубліканскіх конкурсах літаратурнай творчасці. У 2012 годзе атрымала стыпендыю Міжнароднай асацыяцыі дзіцячых фондаў «Мы верым у цябе!»

У мінулым годзе — прэмію Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў за высокія паказчыкі ў інтэлектуальнай і грамадскай дзейнасці, асабісты ўклад у сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё вобласці (намінацыя «Літаратура і краязнаўства»).

У 2012 годзе ў выдавецтве «Альтэрнатыва» пры падтрымцы Беларускага дзіцячага фонду выйшла ў свет першая кніга «Палац Тайн». Пакуль яшчэ не апублікаваны аповесці «Кулон выканання жаданняў», «Калі сяброўка — здань» ды іншыя.

**Анатоль МІКАЛАЕЎ**

# Паглядзець на іншых, паказаць сябе

**Кніжная выстаўка забяспечвае ўсім выдаўцам-экспанентам, кнігагандлярам выдатную магчымасць не толькі прадставіць сваю прадукцыю, пазнаёміцца з новымі праектамі калег з розных краін, але і знайсці новыя рынкі збыту, аўтараў, цікавыя ідэі, што могуць атрымаць выдатную рэалізацыю ў будучыні. Пра самыя значныя імпрэзы, новыя кнігі, што будуць прадстаўленыя ў межах XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, распавядаюць кіраўнікі вядучых айчынных выдавецтваў.**



**Дырэктар Выдавецкага дома «Беларуская навука» Аляксандр Сташкевіч:**

— Наша выдавецтва штогод удзельнічае ў Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Гэты форум — сапраўднае свята кнігі. Таму мы стараемся знаёміць наведвальнікаў з самымі цікавымі навінкамі і самымі адметнымі праектамі. Не так даўно ў выдавецтве распачаўся выпуск новай фундаментальнай чатырохтомнай працы «Нарысы па гісторыі культуры Беларусі», а таксама выйшла даследаванне Вольгі Лабачэўскай «Беларускі народны тэкстыль». З гэтымі навінкамі ўжо можна будзе пазнаёміцца на нашым стэндзе.

Прадставім і самыя яркія выданні мінулых гадоў. Гэта пераможныя для нас праекты «Хто жыве ў Беларусі», «Полацк: Полацк і Полацкае княства (зямля) у IX — XIII, летапіс старажытных слаёў, Полацк і яго акругі ў XIV — XVIII, рамяство, грашовае абарачэнне і гандлёвыя сувязі Полацка ў сярэднявеччы (па дадзеных археалогіі, нумізматыкі і пісьмовых крыніц), культура і асвета ў сярэднявечным Полацку», а таксама кніга «Бібліятэка Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі: каталог выданняў з фонду Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, XVII стагоддзе». Летась выданні былі адзначаны ў Маскве на конкурсе навуковай кнігі, які штогод праводзіцца выдавецкім саветам Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук.

Прадставім і зусім новыя кнігі: працу доктара мастацтвазнаўства, прафесара Валерыя Жука «Гісторыя беларускага жывапісу» — яркае выданне, якое спалучае выдатнае мастацкае афармленне і грунтоўнае навуковае даследаванне, а таксама сумесны праект Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі і Навасібірскага навуковага цэнтра, прысвечаны разгляду этнакультуры беларусаў Сібіры.



**Дырэктар выдавецтва «Беларусь» Ганна Трусевіч:**

— Выстаўка — вельмі важная падзея для нашага выдавецтва. Яна дае магчымасць паглядзець, што робяць калегі, патрымаць, пагартаць новыя кнігі. Форум дазваляе арыентавацца ў тым, якія падзеі адбываюцца ў выдавецкай сістэме Беларусі ды іншых краін, якая прадукцыя запатрабаваная, якія новыя тэндэнцыі назіраюцца ў афармленні, дызайне, што карыстаецца найбольшым попытам. Вельмі важна таксама бачыць водгук, рэакцыю наведвальнікаў на нашы выданні. Гэта, па сутнасці, вялікае маркетынгавае даследаванне!

Для выдавецтва «Беларусь» цікава не толькі на іншых паглядзець, але і сябе паказаць. На стэндзе мы прадставім усе праекты 2013 года, а таксама серыі, выпуск якіх распачаўся некалькі гадоў таму і ўсё яшчэ працягваецца. Да прыкладу, «Беларуская гісторыя». Натуральна, плануем правядзенне прэзентацый, сустрэч чытачоў з аўтарамі кніг. Сёлета ў нашай праграме вылучаюцца дзве асабліва значныя імпрэзы. Гэта прэм'ера кнігі кандыдата гістарычных навук Валянціны Бялявінай «Беларусь у гады Першай сусветнай вайны». Багата ілюстраванае выданне па-навуковаму дакладнае, але ў той жа час цікава і захапляльна распавядае пра падзеі, што адбываліся падчас гэтай вайны. Адметна, што ў кнізе выкарыстаны арыгінальныя фотаздымкі, якім ужо амаль сто гадоў.

Другі яркі праект, што будзе прэзентавацца на форуме, — новая кніга даследчыка, кандыдата мастацтвазнаўства Барыса Лазукі «Слуцкія паясы: адраджэнне традыцыі». Па сутнасці, у гэтым выданні сабраныя ўсе звесткі пра слуцкія паясы: гісторыя, тэхналогія вырабу, рэканструкцыя касцюмаў, у якіх слуцкі пояс абавязкова прысутнічаў як элемент.



**Галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп:**

— Сёлета падчас Мінскага кніжнага кірмашу мы будзем па традыцыі прэзентаваць нашы самыя яркія серыі, паспяховыя праекты і новыя кнігі. Пройдуць сустрэчы з аўтарамі, аўтограф-сесіі, а прэм'еры дзіцячых выданняў нават будуць суправаджацца тэатралізаванымі прадстаўленнямі. Думаецца, нашы імпрэзы павінны зацікавіць наведвальнікаў, але на некаторыя з іх хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу. Гэта ў першую чаргу прэзентацыя кнігі Юліі Навіцкай «Алег Навіцкі. Голас сэрца. Дзённік жонкі касманаўта», што выйшла ў серыі «Наш сучаснік». Кніга — унікальны праект, які распавядае пра нашага славутага земляка, касманаўта Алега Навіцкага. У прэзентацыі возмуць удзел сам Алег Віктаравіч, яго жонка Юлія (аўтар кнігі), а таксама скульптар Іван Міско, які выканаў бюсты многіх знакамітых беларусаў.

Несумненна, зацікавіць чытача і новая кніга даследчыка Барыса Крэпака «Вяртанне іменаў: нарысы пра мастакоў». Гэтае выданне распавядзе пра творцаў, якія нарадзіліся ў Беларусі, а таксама вылучыліся сваім талентамі і здольнасцямі ў іншых краінах. Падчас форуму мы прадставім і зусім свежае выданне з серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі» — кнігу Валянціны Куляшовай «Аркадзь Куляшоў. Лясному рэху праўду раскажу». Кніга дачкі паэта выйшла акурат да яго 100-гадовага юбілею, які мы будзем адзначаць 6 лютага.



**Дырэктар выдавецтва «Вышэйшая школа» Аляксандр Нячай:**

— Наша выдавецтва падрыхтавала досыць шырокую праграму. Яна ў некаторай ступені будзе звязана з тым, што напрыканцы мінулага года мы адсвяткавалі 50-годдзе. Таму адзін з акцэнтаў у рэкламным роліку арганізацыі будзе зроблены менавіта на падвядзенні вынікаў працы за гэты перыяд. Яшчэ адзін важны для нас момант — прадстаўленне новых выданняў, праектаў, якія маюць значэнне не толькі для «Вышэйшай школы», але і для ўсёй краіны. Гэта прэзентацыя кніг серыі «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў» (у 6 тамах), выпуск якой мы не так даўно завяршылі, а таксама прэм'ера мультымедыйнай версіі падручніка «Англійская мова. 8 клас» (аўтар Людміла Лапіцкая і іншыя). Па сутнасці, мы зрабілі першую ў краіне спробу распрацаваць паўнавартасны электронны падручнік у сучаснай мадыфікацыі. Думаецца, гэтае электроннае выданне зацікавіць не толькі наведвальнікаў, патэнцыяльных карыстальнікаў, але і спецыялістаў галіны.



**Галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» Ларыса Языковіч:**

— Сёлета падчас XXI ММКВК на галоўнай выставачнай сцэне будуць прэзентаваныя самыя значныя кнігі нашага выдавецтва. Гэта зусім новая «Энцыклапедыя беларускага хакея», а таксама чарговы праект серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў» — выданне «Кніжная культура. Ветка». Разам з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі мы зладзім прэм'еру факсімільнага ўзнаўлення Баркалабаўскага летапісу. Гэтае выданне шырокай публіцы прэзентавалася толькі аднойчы — падчас Свята беларускага пісьменства ў Быхаве. На стэндзе выдавецтва распавядзём пра самыя значныя і цікавыя навінкі. Згадаю толькі некаторыя з кніг: фотаальбом «Мінск вячэрні», альбом «Прырода захапляе», чацвёрты том энцыклапедыі «Культура Беларусі», новае даследаванне Яўгена Сахуты «Беларускае народнае ганчарства»... Думаецца, зацікавіць наведвальнікаў і расповед пра кнігу «Беларусы Масквы. XVII ст.». Летась мы ўжо прэзентавалі яе на форуме, але тады гэта быў толькі праект, які яшчэ чакаў выдання. Сёлета мы пакажам гатовую кнігу. У дзіцячы дзень, што пройдзе на кірмашы 8 лютага, прадставім свае серыі кніг для дзяцей, а таксама новыя тамы «Энцыклапедыі для школьнікаў і студэнтаў».



**Дырэктар выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» Мікалай Супрановіч:**

— На стэндзе нашага выдавецтва можна будзе пабачыць усе новыя выданні: кніжныя праекты апошняга часу, а таксама перыёдыку — часопісы, якія ўжо шмат гадоў дапамагаюць педагогам. Што да асабліва яркіх навінак, запатрабаваных кніг, то ў іх ліку варта згадаць працы Аксаны Катовіч і Янкі Крука, прысвечаныя традыцыйнай культуры беларусаў. Гэтыя даследаванні карыстаюцца нязменнай папулярнасцю, іх тыражы хутка прадаюцца, а самі кнігі амаль штогод выходзяць новымі накладамі. Паколькі сёлета адзін з галоўных акцэнтаў Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу будзе зроблены на дзіцячай кнізе, то і мы прадставім свае навінкі для дзяцей. У іх ліку — надзвычай цікавыя выданні з серыі «Бібліятэка часопіса «Вясёлка». Прэзентацыя гэтых кніг пройдзе з удзелам галоўнага рэдактара «Вясёлкі», вядомага дзіцячага пісьменніка Уладзіміра Ліпскага.

Упэўнены, што чытачы з цікавасцю наведаюць і сустрэчу з літоўскім пісьменнікам Яронімасам Лаўцюсам, які прэзентуе кнігі «Бывай, дэпрэсія» і «Пішу, таму што жыву». Гэтыя выданні не так даўно пабачылі свет у «Адукацыі і выхаванні».



**Дырэктар выдавецтва «Народная асвета» Ларыса Мінько:**

— На стэндзе нашага выдавецтва прадставіць больш як 200 кніг: падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, метадычныя і дыдактычныя матэрыялы, распрацоўкі факультатыўных заняткаў па рускай мове і літаратуры (для вучняў і настаўнікаў), навукова-папулярная і мастацкая літаратура.

Так, падчас асобных прэзентацый мы прадставім кнігі «Таямніца Нясвіжскага замка», «Узыходжанне на трон» Канстанціна Мароза, «Пачынайце дзень з усмешкі» Міколы Маляўкі. А ў адмысловы дзіцячы дзень мы запрашаем маленькіх чытачоў на прэзентацыю кніг Міколы Чарняўскага «Ці растуць грыбы ў Грыбна», «Колькі ў сонейка сяброў!», «Села Мурка на падмурку».



**Дырэктар, галоўны рэдактар выдавецтва «Пачатковая школа» Наталля Ваніна:**

— Праграма нашага выдавецтва будзе яркай і насычанай цікавымі падзеямі. Шырокай публіцы мы прадставім свае новыя выданні і ўжо любімыя многімі праекты. Хацелася б згадаць кнігу Армэна Сардарава і Навума Гальпяровіча «Маці-Зямля». Арыгінальнасць у тым, што на яе старонках маляўнічыя фотаздымкі беларускай прыроды падаюцца ў суправаджэнні не менш прыгожых вершаў, прысвечаных роднаму краю. Кніга нібыта пераносіць чытача ў тыя далёкія часы, калі нашы продкі лічылі неба Бацькам, а зямлю — Маці. Прэзентацыя гэтага незвычайнага праекта пройдзе з удзелам аўтараў.

Не абмінём увагай той факт, што 2014 год аб'яўлены ў нашай краіне Годам гасціннасці. Таму прадставім наведвальнікам форуму даведнік «Запрашаем у Беларусь. Welcome to Belarus», а таксама новую кнігу серыі «Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі» — «Віцебск — горад майстроў і мастакоў». Выданні дапамогуць гасцям краіны бліжэй пазнаёміцца з мінулым і сучаснасцю Беларусі, распавядуць пра нашых знакамітых суайчыннікаў.

Спадзяюся, гэтыя ды іншыя праекты зацікавяць наведвальнікаў форуму. А для маленькіх мы прадставім маляўнічыя і вясёлыя кнігі, а таксама часопісы серыі «Рюкзачок».

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ** — адзін з нямногіх нашых прафесійных пісьменнікаў, якія сваёй плённай працай унеслі важкі ўклад у развіццё сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры. Дзясяткі цудоўных кніг вершаў і прозы ён цалкам прысвяціў маленькім чытачам, пераважна дзецям малодшага школьнага ўзросту, хоць і дарослыя знаходзяць у яго ных творах шмат пазнавальнага, цікавага, займальнага. Вядомы пісьменнік і як таленавіты перакладчык дзіцячай паэзіі. Да XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу Мікола Чарняўскі прапанаваў «ЛіМу» свае новыя пераклады замежных аўтараў.



## РАСІЯ

### Самуіл МАРШАК

## Свята лесу

*Што мы саджаем, як садзім*
*Лясы?*
*Мачты і рэі —*
*Трымаць парусы,*
*Рубку і палубу,*
*Рэбры і кіль —*
*Плаваць па моры у буру і штыль.*

*Што мы саджаем, як садзім*
*Лясы?*
*Крылы, каб лётаць,*
*Абшары красы.*
*Стол, за якім*
*Будзеш ты працаваць,*
*Сшытак, аловак —*
*Пісаць, маляваць.*

*Што мы саджаем, як садзім*
*Лясы?*
*Нетры,*
*Дзе сцежкі дзіка і лісы,*
*Нетры,*
*Дзе шустрай вавёркі*
*Жытло,*
*Нетры,*
*Дзе чуецца стукат дзятлоў.*

*Што мы саджаем, як садзім*
*Лясы?*
*Ліст, на якім*
*Зззяюць кроплі расы,*
*Свежасць лясную, і вільгаць,*
*І цень, —*
*Вось што саджаем*
*У сённяшні дзень!*

### Людміла ФАДЗЕЕВА

## Палачка-выручалачка

*Эх, мне б палачку —*
*Выручалачку!*
*Мне б урокаў усіх*
*Вывучалачку.*
*А на ўроках бы —*
*Адказалачку.*
*І ў кватэры б усёй*
*Прыбіралачку.*
*Каб мог выручыць я*
*Нашу Галачку —*
*І няўмелачку,*
*І забывалачку.*

### Уладзімір АРЛОЎ

## Жывы буквар

*Нас ва ўсе часіны года*
*Вучыць родная прырода.*
*Вучыць па календары —*
*Па жывым буквары:*
*Птушкі вучаць СПЕВАМ,*
*А яшчэ — НАТХНЕННЮ,*
*СТОЙКАСЦІ — дрэвы,*
*Павучок — ЦЯРПЕННЮ.*
*Вучыць рупны рой пчаліны*
*Нас ПРАЦОЎНАЙ ДЫСЦЫПЛІНЕ.*
*Вучыць працаваць з дня ў дзень*
*І па СПРАВЯДЛІВАСЦІ.*
*Цень-адбітак у вадзе*
*Вучыць нас ПРАЎДЗІВАСЦІ.*
*Вучыць снег нас ЧЫСЦІНІ,*
*Вучыць сонца ДАБРЫНІ.*
*Нам вучыцца круглы год*
*Варта б у прыроды:*
*Вучаць дрэвы ўсіх народ,*
*Вучыць нас лясны народ*
*ДРУЖБЕ, поўнай згоды!*



## УКРАІНА

### Анатоль КАСТЭЦКІ

## Свісток-летуценнік

*Забыты ў скрынцы, жыў свісток.*
*Маркотна жыў, няпэўна,*
*бо той свісток ніхто год сто*
*не заўважаў, напэўна.*

*Тужыў ён:*
*— Кепска быць свістком,*
*такім, як я, самотным!*
*Шкада: не стаў ні караблём,*
*ні хуткім самалётам!*
*А я ж быць мог бы цягніком*
*і здесь на трасе мчаца!*
*Я нават згодны стаць шпаком,*
*каб тут не марнавацца!..*

*Ён, можа б, шмат яшчэ гадоў*
*пакутаваў, балесны,*
*калі б хлапчук не надышоў*
*і ў скрынку не палез бы.*

*Свісток яго руку адчуў —*
*увесь ад страху сцяўся:*
*навошта ўзяў яго хлапчук?*
*Мо выкінуць сабраўся?*

*А той спытаў:*
*— Ты хто?*
*— Свісток, — падаў ён голас квола.*
*— Свісток?*
*Чаму ж, свісток-браток,*
*ты сумны, невясёлы?..*

*І лёс свістка з хвіліны той*
*стаў іншым, не пакутным:*
*пілотам лётаў над зямлёй,*
*у моры плаваў суднам.*

*А захацеў хлапчук — і ён*
*ужо цягнік, і мчыцца*
*па рэйках з ветрам у абгон,*
*вязе сябрам гасцінцы.*

*Калі ж парой хлапчук-дружбак*
*перадыхнуць прысядзе,*
*тады свісток, нібыта шпак*
*спявае-свішча ў садзе!*

*І вельмі рады той свісток,*
*што ён — свісток, і толькі.*
*Свісток, каго даўно ніхто*
*Не заўважаў ніколькі.*

*Што з летуценным хлапчуком*
*яму заўжды цікава,*
*што ён яго не свістуном —*
*свістком заве ласкава!*

### Марыя ПАЗНАНСКАЯ

## Рамонак

*На высокай ножцы гнуткай,*
*На лужку, ля ручая,*
*У каўнерыку бялюткім*
*Кветку гэту ўбачыў я.*

*Светлым вокам, жоўтым гэткім,*
*Паглядзела на мяне...*
*Я сарваць памкнуўся кветку,*
*А пчала сказала: — Не!*



## ТУРКМЕНІСТАН

### Азат РАХМАНАЎ

## Музыкант

*Хто найлепшы самы ў свеце*
*музыкант? Напэўна, вецер,*
*бо хвілінаю любой*
*інструмент ёсць пад рукой.*

*Толькі вецер наляціць —*
*ціха сад зашалясціць.*
*Толькі шэрых скал кранецца —*
*рэха горнае прачнецца.*
*У чарот ён забрыдзе —*
*той гамонку павядзе.*
*Тэлеграфны слуп — і той*
*пад яго пяе рукой.*

*Ён шчыруе з асалодай —*
*не злічыць усіх мелодый!*

*Гэта дружыць з сінявой —*
*тупат коней чутны ў ёй,*
*гром грукоча, а затым —*
*дождж шапоча залаты.*

*Гэта вось — яшчэ адна:*
*хваль пяшчота ў ёй чутна,*
*ў камянях цурчыць ручай,*
*цвыркуновай скрыпкі грай...*

*А пад вечар вецер сціх,*
*быццам знік, здзівіўшы ўсіх.*
*Музыкант, дзе ж ты цяпер?*
*Сумна без цябе, павер...*



## СЕРБІЯ

### Любівое РШУМАВІЧ

## Добра...

*Добра ўсё ж быць мараком:*
*Судна, хваляў шум, цяльняшка.*
*Тут работа. Тут твой дом.*
*Добра ўсё ж быць мараком,*
*Ды цяжка.*

*Добра ўсё ж пілотам быць,*
*Узлятаць увысь бязважка,*
*Нібы ў моры сінім плыць.*
*Добра ўсё ж пілотам быць,*
*Ды цяжка.*

*Добра афіцэрам быць:*
*Кіцель, выпраўка, фуражка,*
*Годна жыць, салдат вучыць,*
*Храбра іх у бой вадзіць.*
*Добра афіцэрам быць,*
*Ды цяжка.*

*Добра дужым быць і смелым,*
*Спрытным, хуткім, рупна-ўмелым,*
*Каб усё ў руках кіпела,*
*А душа ад шчасця пела!*
*Быць умелым — слаўна, дружа,*
*Ды цяжка. Дужа.*



## БАЛГАРЫЯ

### Асень БОСЕЎ

## Жамчужная рака

*Бяжы, паток, імклівa мчы,*
*Жамчужная рака.*
*З парога на парог скачы,*
*Жамчужная рака.*

*Нясі прывет*
*Далінам з гор.*
*Табе ў палях —*
*Такі прастор!*

*Дай саду вільгаць, асвяжы,*
*І колы млына закружы.*
*Дзяцей у хвалі акуні,*
*Пяшчотай вербы ахіні.*

*Струмень, дзівосным срэбрам ззяй,*
*Жамчужная рака,*
*Дабро тварыць усім спрыяй,*
*Жамчужная рака.*



## ІЗРАІЛЬ

### Міхаіл ГЕЛЕР

## Што за літары такія?

*«М» не «м» — кручкі, кручочкі,*
*«Д» ўтуліла тонкі хвост,*
*«О» надзьмулася, як бочка,*
*«Я» злуе — не ўдаўся рост.*

*«Ш» журботна прашаптала —*
*Скруха літару ўзяла:*
*— Я ж да «т» падобнай стала,*
*Я ж прыгожаю была!*

*«Х» — як рымская дзясятка.*
*Гэта «б» ці «в» — загадка!*
*І няўцям, няўцям ніяк,*
*Што сагнула мяккі знак.*

*Ды затое рады Вова:*
*Міг — і слова,*
*Міг — і слова.*
*— Не патрэбна прыгажосць,*
*Калі спрыт і хуткасць ёсць.*

*Гэтак змог я налаўчыцца —*
*Ручка, быццам птушка, мчыцца!*
*І не ўгоніцца ніхто!*
*...Ой, а двойка мне за што?*



## МАЛДОВА

### Аўрэл ЧАКАНУ

## Матчын хлеб

*Мама рэжа хлеб пшанічны —*
*Хлеб пшанічны, нам прывычны.*
*Мне і ўсім — па роўнай долі.*
*Пахне ў доме, нібы ў полі:*
*Пахне сенам, пахне мятай,*
*Сонцам, хмаркаю бухматай...*
*На стале гатоў абед.*
*Побач мама — родны свет.*



## ТАТАРСТАН

### Роберт МІНУЛІН

## Ва ўсім вінаваты мядзведзь

*— Пусціце мяне пагуляць,*
*Мне млосна ўжо ад піяніна!*
*Ды на піяніна іграць*
*Бацькі прымушаюць сына.*

*Рашылі яны: іх сыночак іграць*
*Навучыцца віртуозна,*
*Ды толькі патрэбна яго*
*Прымушаць,*
*Каб хлопчык займаўся сур'ёзна.*

*А ён піяніна сваё неўзлюбіў.*
*Бацькоў жа вярэдзіла скруха:*
*Дайсці не магло,*
*Што мядзведзь наступіў*
*Яму, іх дзіцяці, на вуха!*

*То грукат бязладны.*
*То гам з акна ўся вуліца чуе,*
*То мяўканне дзікае там,*
*Як быццам хто кошку*
*Лупцуе...*

*Прахожым няўцям,*
*Пачынаюць гадаць:*
*— Хоць трошкі падобна на гамы?*
*— Ну што вы!*
*Хіба гэтак можна іграць!*
*— А мо там іграюць*
*Нагамі?..*

*Бацькі навучаюць сына,*
*Пакутна і сыну,*
*І ім!*
*І тут ні пры чым*
*Піяніна,*
*Мядзведзь вінаваты*
*Ва ўсім!*



## ЭСТОНІЯ

### Хельё МЯНД

## Хто заўсёды ў клопаце?

*Хто заўсёды ў клопаце?*
*Трактарыст у клопаце:*
*поле сэрцам разумее, і арэ, і сее.*

*Хто заўсёды ў клопаце?*
*Грузавік у клопаце:*
*для раслін — вясна ці восень —*
*угнаенні возіць.*

*Хто заўсёды ў клопаце?*
*Дожджычак у клопаце:*
*над палеткам*
*ён пральецца — каласок нап'ецца.*

*Хто заўсёды ў клопаце?*
*Тата мой у клопаце:*
*жыта спелае камбайнам*
*жне ён рупна, дбайна.*

*Хто заўсёды ў клопаце?*
*Хлебапёк у клопаце:*
*хлеб пячэ ён смачны.*
*Хто яму не ўдзячны?!*

*Бусел з сумным клёкатам*
*над гняздом лунае.*
*Хто не знае клопату?*
*Я з сястрой не знаю:*
*хлеба ўсмак пад'елі — і павесялелі.*

*Дзякуй!*

# Ато ХАМДАМ

## *Апавяданні*



### ГАНАРАР

Аднойчы ў тоўстым літаратурна-мастацкім часопісе надрукавалі маю аповесць. Гэта была далёка не першая публікацыя, і таму радасць мая мела зусім іншыя вытокі: вось ужо гадоў з дзесяць, як у газетах і часопісах перасталі выплачваць ганарары. Рэдакцыі пачалі дзейнічаць паводле прынцыпу: хочаш — пішы, а не хочаш — заўсёды знойдзецца той, каму прыемна бачыць сваё прозвішча, надрукаванае буйным шрыфтам. Гэта сёння найлепшая ўзнагарода. І, можаце сабе ўявіць, пішуць бясплатна, таму што інерцыя творчасці — зараза, не горшая за ганконгскі грып.

А тут сустрэў мяне супрацоўнік таго самага часопіса і накінуўся на мяне з дакорамі: куды, маўляў, ты знік? Бухгалтэрыя не можа праз цябе закрыць ганарарную ведамасць.

Я сумеўся ад здзіўлення.

— Няўжо мне штосьці належыць?

Супрацоўнік часопіса паблажліва пасміхнуўся.

— Яшчэ пытаеш! Мы ж не нейкая там бульварная газетка!

Калі чалавека распірае радасць, яму цяжка маўчаць. Адзін сябар, другі пачулі ад мяне дзіўную навіну, і кожны гаварыў адно і тое ж:

— З цябе абед.

— Пра што размова! — бадзёра адгукаўся я.

У рэдакцыю мы завіталі ўпяцёх. Сябры засталіся чакаць на вуліцы, а я самавітай паходкай накіраваўся ў бухгалтэрыю. У былыя часы ганарар за буйны твор мог ператварыцца ў машыну. Шчыра кажучы, я спадзяваўся на штосьці падобнае і цяпер.

Ад сумы, пазначанай у ведамасці, я схаладнеў і ногі мае міжволі падагнуліся. Гэтых грошай не хапіла б на абед нават для мяне аднаго, а на вуліцы чакалі чацвёра.

Я паставіў свой подпіс у ведамасці і не сваім голасам пацікавіўся:

— Скажыце, а з вашай рэдакцыі ёсць іншы выхад?

Бухгалтарку чамусьці не здзівіла маё пытанне, і яна хуценька адказала:

— Праз склад, другія дзверы налева.

Я скарыстаў параду.

Вось ужо з месяц, як сябры адварочваюцца, бачачы мяне.

### ЖАДАННЕ МАЦІ

1

У той час я яшчэ быў малы. Мне было толькі сем гадоў. Я нічога не ведаў пра навакольны свет і бесклапотна бавіў час. Не памятаю свайго твару, не магу ўспомніць, які ён тады меў выраз, не ведаю, пра што я гаварыў, хто і як клапаціўся пра мяне — таксама не памятаю. Адно толькі засталося ў памяці: мая няшчасная мама працавала дзень і ноч, непакоілася пра мяне, як клапатлівая кошка непакоіцца пра сваё кацяня, цягаючы з аднаго месца на другое. Усё, што зарабляла і знаходзіла, расходавала на мяне.

Аднойчы, як тое часцяком здаралася, перапэцканы глінай, у парванай кашулі, я прыйшоў дахаты. Мама хварэла, ляжала і стагнала ад болю. Каля яе сядзела суседка.

— Баюся, што памру і мой Акбарджан застанецца сіратой, пачне бадзяцца, зробіцца беспрытульным. Калі б ён мог зарабіць сабе на хлеб, тады і памерці было б не так балюча, — гаварыла мама са слязьмі на вачах.

— Дарма перажываеш, суседка. Алах насылае хваробу на сваіх любых абраннікаў. Дасць Бог, неўзабаве паздаравееш і ўстанеш з ложка, будзеш выглядаць, як ранішняя ружа, — супакойвала маму суседка.

2

Я пасталеў, зрабіўся дарослым. Як таго хацела маці, скончыў педагагічны інстытут, пачаў самастойнае жыццё — стаў чалавекам. Цяпер мама гаварыла:

— Адзінае маё жаданне — гэта ажаніць майго Акбарджана, убачыць у доме нявестку, тады і памерці не страшна.

3

У дзень майго з Саўсан вяселля ў мамы нібыта выраслі крылы, ад шчасця яна не знаходзіла сабе месца. Уражанне было такое, што мы з Саўсан — свечка, вакол якой маці лунае, як матыль. Ні на хвіліну не адыходзіла ад нас. Ах, якой яна была ў той вясельны дзень!

Здавалася, што да яе вярнулася маладосць і яна зноў перажывала найлепшую пару…

4

Прамінула некалькі месяцаў. Аднойчы, вяртаючыся пасля работы дамоў, я пачуў размову маці са старой суседкай:

— Нявестачка мая даношвае апошнія месяцы і неўзабаве павінна ашчаслівіць мяне ўнукам. Так хачу ўбачыць унучанё, паняньчыцца з ім, праспяваць калыханку, успомніць дзіцячыя гады майго Акбарджана. Што я бачыла ў жыцці? Усё, што я маю, — гэта мой адзіны сын, родная кветачка.

— Калі будзе воля Алаха, убачыце і ўнука свайго, — адказвала суседка. Суседчыны словы надалі маці сіл, і яна прамовіла:

— Дай Бог, суседачка…

5

Гады плылі чарадой. За гэты час наша сям'я павялічылася да сямі чалавек. Маці заставалася па-ранейшаму бадзёрай і жыццерадаснай.

— Хутчэй бы ўбачыць вяселле Зарыны, пасля гэтага пайшла б, не шкадуючы, — казала маці, з пяшчотай гледзячы на маю старэйшую дачку.

— Убачыце, матулька, абавязкова ўбачыце. Дасць Бог, пасядзіце і на вяселлі сваёй праўнучкі, — сказаў я, суцяшаючы яе.

Тады Зарыне было шаснаццаць…

6

На вялікі жаль, убачыць вяселле Зарыны маёй беднай маці не давялося. Яна панесла сваю мару ў іншы свет. У апошнія імгненні свайго жыцця яна паклікала мяне і сказала:

— Сыночак, бачу, што на тваёй чарнявай галаве з'явіліся белыя пасмы. Але ты не журыся. Ты сумленна працаваў з людзьмі і для людзей. Усе табою задаволены, я — таксама. Не перашкаджай, а дапамажы Зарыне з навучаннем. Не сарамецца перад людзьмі, заўсёды заставайся з імі, дапамагай ім. Калі хочаш, каб дух мой і ў лепшым свеце быў задаволены табою, рабі дабро, сынок, усім і ўсюды рабі дабро. Толькі дабро здатнае зрабіць чалавека шчаслівым…

7

Цяпер я пенсіянер. Зарына пайшла па маіх слядах. Яна разам з мужам жыве і настаўнічае на вёсцы. Гадуюць прыгожанькіх дачок і сыноў. Калі я гляджу на іх ружовыя задаволеныя твары, міжволі бачу родныя рысы маёй маці і чую яе голас:

— Рабі людзям дабро, сынок, рабі дабро. Не забывай, што вялікае паўстае з дабра…

### «КАБ ЧОРТ УЗЯЎ!»

Летась скончыў я школу. Хацеў паступіць ва ўніверсітэт, на юрыдычны. Даўно пра гэта марыў.

— Ну не, — казаў бацька, — ты зробішся матэматыкам. Я хачу, каб мой сын быў навукоўцам. Чаго ты скрывіўся? Ведаю, ведаю, што ў матэматыцы ты слабы. Але пра што турбавацца, калі ў цябе такі бацька, як я? Толькі б я быў жывы і здаровы. І кінь, зараз жа кінь крывіць мордУ!

Доўга я ўпрошваў бацьку, але ён быў няўмольны.

— Хочаш быць чалавекам — рабі, як я кажу.

І я паслухаўся бацьку. Падаў дакументы на фізіка-матэматычны. Да экзаменаў заставаліся лічаныя дні, калі я сур'ёзна пачаў нервавацца.

— Навошта ты нервуешся, сынок? У твайго бацькі ў гэтым горадзе безліч сяброў. Сярод іх ёсць уплывовыя людзі. Зараз я дам табе адрас аднаго з іх. Вельмі аўтарытэтны чалавек. Перадасі запіску, і, лічы, ты ўжо студэнт. Ніхто з маіх сяброў не кідае слоў на вецер.

«Уплывовы чалавек» жыў так далёка, што я змарнаваў увесь дзень, шукаючы яго. Ён пачытаў ліст, пачухаў патыліцу і памаўчаў. Сэрца маё ёкнула. «Не, відаць, не змажа ён дапамагчы!»

— М-м-м! Значыць, хочаш зрабіцца вучоным? Добра, вельмі добра! Гэта для нас не праблема. Трэба дапамагчы — дапаможам. Сяброў процьма, хай толькі адмовяцца дапамагаць!

Пераначаваў я ў «аўтарытэтнага чалавека», а раніцай ён працягнуў мне паперчыну і сказаў:

— Знойдзеш майго сябра. Перадасі яму запіску. Ён усё зробіць. Першы чалавек там.

— Добра, — пагадзіўся я і выправіўся на пошукі «першага чалавека».

Яго я шукаў два дні. Знайшоў, перадаў запіску. «Першага чалавека» звалі Хакім Салімавіч.

— Выдатна! — сказаў ён. — Сяброў незлічона. Хай паспрабуюць адмовіць!

Ён працягнуў мне новую запіску.

— Вось, мой родны. Не трэба лішніх слоў. Гэту паперу перадасі вельмі важнаму чалавеку.

Такім чынам, напярэдадні экзаменаў я наведаў пяцёра бацькавых сяброў. І паўсюль чуў адно: «Сяброў безліч, хай толькі адмовяць».

Мае чаравікі, якія я купіў амаль што перад самымі іспытамі, добра-такі знасіліся. Заўтра трэба было здаваць першы экзамен.

«Патрэбны чалавек» на развітанне сказаў:

— Заўтра не ідзі здаваць, пакуль я не з'яўлюся.

Я з радасцю пагадзіўся. А як жа інакш? Матэматыкам жа я планаваў зрабіцца, спадзеючыся на пратэкцыю.

Буднак, дзе адбываліся ўступныя экзамены, быў падобны да вулля. Я ж нагадваў пчалу, якую прагналі з сям'і. Было мне няўтульна, адзінока, я стаяў на дварэ ў кутку і чакаў знаёмага выкладчыка.

Экзамен пачаўся, а знаёмы ўсё не з'яўляўся. У мяне не было іншага выйсця, як ісці ў экзаменацыйную залу.

Я ўбачыў, сеў, перапісаў з дошкі задачы. Перапісаў акуратна, а што яшчэ было рабіць? Рашыць іх было немагчыма. Я сядзеў нерухома, як помнік, пасля панапісваў на паперы нейкія лічбы і аддаў на стол экзаменатарам. Як выйшаў, не памятаю.

На вуліцы да мяне падышоў сын знаёмага выкладчыка, працягнуў нейкую паперчыну.

«Браток, прабач, уначы нядужылася. Сам штосьці прыдумай», — машынальна чытаў я.

Ну што ж, я ўжо выканаў чарговую інструкцыю — пабываў на экзамене.

Як і чакаў, на наступны дзень я ўбачыў сваё прозвішча сярод тых, хто атрымаў двойкі.

—Нічога, на наступны год лепш падрыхтуецеся, — суцяшалі мяне ў канцылярыі, дзе я забіраў свае дакументы.

Каб чорт узяў, я ж сам быў ва ўсім вінаваты. Спадзяваўся на знаёмых свайго бацькі, на ўсіх гэтых «галоўных», «важных», «першых» людзей!.. Цяпер буду спадзявацца толькі на самога сябе. Вам смешна?

Вось убачыце, я падрыхтуюся і абавязкова зраблюся студэнтам.

### СУСТРЭЧА

Уначы дзяўчына вярталася дадому. Яна наведвала хворую сяброўку ў суседнім селішчы, затрымалася і вось цяпер, спатыкаючыся на выбоінах, спяшалася як найхутчэй пераадолець страшнае месца. Убаку, асветленыя месяцам, бачыліся вясковыя могілкі. Пакаты схіл, на якім узвышаліся магільныя грудкі, пліты з надпісамі, высокія жэрдкі са шматкамі белай тканіны… Сэрца сціскалася ад страху.

Ззаду пачуліся крокі. Дзяўчына ледзь стрымала крык, азірнулася і ўбачыла мажнога хлопца, які ішоў па той самай сцяжыне, што і яна.

Дзяўчына з палёгкай уздыхнула.

— Калі ласка, вы не маглі б правесці мяне міма кладоў? — умольна папрасіла яна.

— З вялікай ахвотай.

Хлопец крочыў побач з дзяўчынай і з цікавасцю пазіраў на яе.

— Сорамна гаварыць, але я надта ж баюся могілак, — парушыла маўчанне дзяўчына. — Асабліва начной парою. Мне здаецца, што вось зараз нейкая здань выскачыць з магілы, учэпіцца ў мяне сваімі кіпцямі і пачне шкуматаць на часткі…

Яна нават закалацілася ад такой думкі.

— Не варта баяцца месцаў вечнага спачыну людзей, — нягучна прамовіў хлопец. — Іх насельнікі бясшкодныя, у адрозненне ад тых, што яшчэ ходзяць па зямлі.

— Вы што ж, спакойна ставіцеся да кладоў? — пацікавілася дзяўчына.

— Я?

— Так, вы.

— Як вам сказаць… Так, быў час… Быў час, калі я гэтаксама, як і вы, са страхам ішоў міма такіх вось месцаў. Цяпер не.

— Чаму? — ад хвалявання дзяўчына пільна ўзіралася ў свайго суразмоўніка. У мройлівым святле месяца ягоны твар быў невыносна белым, голас гучаў мёртва і глуха. Дзяўчына спатыкнулася, выпадкова дакранулася да рукі спадарожніка і, як ёй падалося, адчула ледзяны холад.

Хлопец, не звяртаючы ўвагі на дзяўчыну, гэтак жа раўнадушна працягваў:

— А пасля, калі я судакрануўся са светам даўно памерлых, калі яны пачалі мне расказваць пра сваё былое жыццё, зрабіліся смешнымі нашы прымхі і забабоны. Мёртвым няма аніякай справы да жывых. Вось так, даражэнькая…

Хлопец хацеў зірнуць на сваю спадарожніцу, але побач з ім яе не было. Толькі дзесьці ўбаку бачылася постаць, што бегла прэч па сцяжынцы, ды чулася, як з-пад ног перапалоханай дзяўчыны ляцяць каменьчыкі.

Хлопец збянтэжыўся і запаволіў крокі.

— Не даслухала да канца… А я ж археолаг… Хіба ж мог я гаварыць інакш… Чаго было баяцца…

Ён зноў пайшоў наперад, узышоў на груд і ўбачыў агеньчыкі селішча. Яны мігцелі ў цемры, нібыта таксама апасаліся суседства маўклівых кладоў.

Тады хлопец працягнуў руку наперад і ўсклікнуў, працягваючы незакончаныя разважанні:

— Людзі! Не бойцеся кладоў, не бойцеся памерлых! Бойцеся жывых, тых самых, здатных на зайздрасць і хлусню, абгавор і здраду!

**Пераклад Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

# Нібы сонейка і парасон

**Дзіцячая літаратура сёння, бадай, самы папулярны і запатрабаваны на рынку кірунак. Многія выдавецтвы працуюць у галіне выпуску кніг для маленькіх чытачоў, а аўтары спрабуюць свае сілы ў напісанні казак, вершыкаў, кароценькіх павучальных апавяданняў. Думаецца, такая разнастайнасць прадстаўленых у кнігарнях выданняў для дзяцей стала вынікам двух рознаскіраваных працэсаў. З аднаго боку, бацькі імкнуцца набыць якасныя, яркія, цікавыя выданні, з іншага — выдаўцы жадаюць атрымаць як мага больш прыбытак, ствараючы самы канкурэнтаздольны прадукт. Таму не дзіўна, што сярод такога багацця назваў і імёнаў вельмі проста разгубіцца. Якія асноўныя тэндэнцыі склаліся ў сучаснай дзіцячай літаратуры? На якія тэмы звяртаюць увагу пісьменнікі, што працуюць у гэтым сегменце? Ці адпавядаюць новыя выданні крытэрыям ідэальнай кнігі для маленькага чытача? З такімі пытаннямі мы звярнуліся да пісьменнікаў, выдаўцоў і даследчыкаў з розных краін, чыя дзейнасць непасрэдна звязана з дзіцячай літаратурай.**

**Яронімас ЛАЎЦЮС, пісьменнік, дырэктар выдавецтва «Тры зорачкі» і галоўны рэдактар аднайменнага часопіса для дзяцей, сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі, Літва:**




— Дзіцячая душа, адметнасці ўспрымання свету не зміняюцца стагоддзямі. Таму, здавалася б, і дзіцячая літаратура павінна быць класічнай. Аўтары мусяць пісаць пра прыгажосць свету і душы, пра пошукі дабрыні і пазнанне прыроды. Часткова так і ёсць, але можна заўважыць, што ў XXI стагоддзі выдаўцы шмат увагі звяртаюць менавіта на форму кнігі, ставяцца да яе як да тавару, для якога вельмі важная яскравасць і прыгожая падача. А сам змест нібыта адыходзіць на другі, трэці план. Таму часта кнігі падобныя да цацак (яны і спяваюць, і размаўляюць, і іграюць), да тэхналагічных дасягненняў, да энцыклапедый. Гэта, канечне, патрэбна, але ж маючы справу з такімі выданнямі, дзеці паступова адвыкаюць ад мастацкіх, духоўных кніг.

Ды сапраўдныя дзіцячыя пісьменнікі, казачнікі, дзякуй богу, не вымерлі. Яны пішуць і будуць пісаць пра душу і прыгажосць, скіроўваць дзяцей на мару, веру ў сябе, у цуды, якія абавязкова здзейсняцца. Іншая справа, што цяпер дзеці хутчэй сталеюць. Падчас сустрэч, чытанняў я назіраю за малодшымі школьнікамі і заўважаю, што яны для сябе выбіраюць мае творы, прызначаныя для дарослых. Але, па сутнасці, для дарослых я пішу пра тое ж.

У Мінску пабачылі свет мае кнігі «А лёс заўжды з табой», «Ты адзіны такі» — самі назвы кажуць пра тэматыку гэтых выданняў. Я рады, што Выдавецкі дом «Звязда» рыхтуе і маю новую кнігу «Ля возера». Думаецца, што ў ідэале дзіцячая кніга павінна асвятляць душу чытача, як сонца, і, як парасон, абараніць яго ад негатыўных з'яў.

**Аляксей КАНАНЕНКА, заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны, пісьменнік, Украіна:**

— Вядомы пастулат, што «для дзяцей патрэбна пісаць, як для дарослых, толькі намнога лепш», актуальны ва ўсе часы. Але зусім нядаўна быў час, калі кнігі для дзяцей «штампавалі», не звяртаючы ўвагу на граматнасць, змест, афармленне. Аднак гэта хутка прайшло, таму што «дзіцячая цэнзура» — самая бязлітасная. Не будзе дзіця браць у рукі кепска выдадзеную некаляровую кнігу!



А бацькі дзяцей, якія чытаюць, патрабавальна ставяцца да зместу. Такім чынам адбываецца адбор.

Таму ва Украіне, як, напэўна, і ва ўсім свеце, выдаўцы стараюцца строга выбіраць тэксты (калі гэта новая кніга), запрашаць вядомых аўтараў да напісання, вядомых мастакоў да малявання дзіцячых кніг. Асабіста я правяраў свае дзіцячыя творы на сваіх жа дзецях, а цяпер — на ўнуку. У дзіцячай літаратуры павінен быць просты падыход, як у харчаванні. Не даюць жа дзецям сапсаваную катлету, недавараную бульбу ці гарэлую кашу.

Сёння якасная дзіцячая кніга прадаецца лепш, чым любая іншая. Гэта добры знак. Бо той, хто з малых гадоў чытае, не закіне гэтую звычку і калі вырасце. Таму мяркую, што ідэальная дзіцячая кніга — тая, якую набываюць і чытаюць. На жаль, у нас няма статыстыкі продажу выданняў, і меркаваць мы можам толькі па тыражах, якія фіксуе Кніжная палата Украіны. Лідары па выпуску дзіцячых кніг у нашай краіне — львоўскае «Видавництво Старого Лева», харкаўскія «Ранок» і «Талант», кіеўскае «Грані-Т».

**Таццяна ФЯДЗЯЕВА, доктар філалагічных навук, галоўны рэдактар часопіса «Вестник детской литературы», Расія:**



— Сёння «фарматнай» дзіцячай кнігай лічыцца выданне вясёлае, забаўляльнае. Нашы пісьменнікі паспяхова асвоілі ўсе жанры, развіццё якіх стрымлівалася педагагічнай і грамадскай думкай у Савецкім Саюзе, — ад «страшылак» і трылераў да гумарыстычных дэтэктываў. Гэта ў многім зразумелае і апраўданае захапленне новым, тым, што было пад забаронай, сёння прывяло да крызісу сур'ёзнасці ў дзіцячай літаратуры, я б сказала, да яе «гульнёвага» застою. Сучасная дзіцячая літаратура, на вялікі жаль, у многім перастала выконваць функцыю навучання дзіцяці жыццю, удзельнічаць у фарміраванні светапогляду. Яна ўжо не адказвае ў патрэбнай ступені на запыты дзяцей пра тое, як разумець навакольны свет, як у ім патрэбна жыць. Паўстала неабходнасць фарміравання ў грамадстве пазітыўнага стаўлення да літаратуры, якая закранае пытанні маральнага кшталту і нялёгкія сацыяльныя праблемы.

Дзеці фактычна сталі заказчыкамі таго, што і як пісаць. «Школьные парады» Остэра, дзе адмяняецца дыктатура дарослых, — выдатная ілюстрацыя гэтай думкі. Перамяшчэнне чытача на першы план — галоўная рыса сучаснай дарослай літаратуры, але гэты тэзіс наўрад ці дарэчны ў адносінах да літаратуры дзіцячай. Улік меркавання дзіцяці вельмі важны, але такі чытач не можа стаяць над аўтарам і дыктаваць, што пісаць і як пісаць. Інакш літаратура цалкам ператворыцца ў вясёлыя малюнкі.

Усведамленне гэтага ўжо адбылося ў еўрапейскай дзіцячай літаратуры, якая вярнулася да сур'ёзных тэм і ўжо не гаворыць «весела пра сур'ёзнае». Еўрапейскія дзіцячыя пісьменнікі шмат пішуць пра сваркі ў сям'і, пра канфлікт дзіцяці і дарослага, але, здараецца, прыслухоўваюцца да сваіх дарослых ідэй і закранаюць тая зусім не дзіцячыя тэмы, як смерць, ці захапляюцца ідэяй талерантнасці і тлумачаць дзіцяці, што такое аднаполыя шлюбы.

Таму сёння назіраецца вострая неабходнасць нейкім чынам змяніць акцэнт кнігавыдання і вярнуцца на арбіту зацікаўленасці выдаўцоў сур'ёзнай, сацыяльна значнай дзіцячай кнігай. Гэта, канечне, не азначае, што дзіцячы пісьменнік павінен выконваць функцыю прапаведніка і распавядаць пра вядомыя ісціны. Гаворка пра выданне высокамастацкай дзіцячай літаратуры, якая за кошт мастацтва слова і майстэрства пісьменніка выхоўвае ўменне суперажываць усяму жывому, адлюстроўвае самыя лепшыя бакі душы чалавека і адкрывае перад маленькім чытачом высокія мэты ў жыцці. Успомніце, да прыкладу, пра забытыя цяпер імёны Віталя Біянкі, Віктара Галяўкі, і вы зразумееце, што я маю на ўвазе.

Пры гэтым важна ведаць, што сучасныя дзіцячыя пісьменнікі сёння пішуць таксама і выдатныя творы ў «негульнёвым» фармаце, я чытала нямала сур'ёзных паэтычных і празаічных тэкстаў. Але яны ці з цяжкасцю знаходзяць свайго выдаўца, ці не знаходзяць зусім.

**Сяргей КУЗЬМІН, кандыдат філасофскіх навук, дырэктар выдавецтва «Кніжны Дом», Беларусь:**




— Кніга як аб'ект матэрыяльнай культуры чалавецтва ў яе традыцыйным выглядзе не знікне, і яе ніколі цалкам не зможа замяніць так званая электронная кніга. Асабліва дзіцячая. Калі дзіця з самага ранняга ўзросту цалкам арыентаваць на электронныя кнігі, гульні і іншыя гаджэты, то з яго наўрад ці вырасце ўсебакова развітая асоба. Даведачная, энцыклапедычная і нават вучэбная кніга могуць часткова сысці ў электронны сегмент, бо сёння практычна ўсю інфармацыю можна знайсці ў сусветным сецыве. Складаныя часы надыходзяць і для ўсялякага кшталту «мастацкага чытва». Але сапраўдная літаратура ўсё роўна застаецца і застанецца запатрабаванай. Тым больш — дзіцячая. Тэмпы выдання кніг для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту толькі набіраюць абароты ў колькасці і асабліва ў якасці яе выканання і разнастайнасці форм падачы матэрыялу.

Ідэальная кніга — тая, якая прыносіць чытачу максімальнае задавальненне. Яе прыемна трымаць у руках, чытаць, перачытваць, мець у сваёй бібліятэцы. Яна прыносіць эстэтычнае і духоўнае задавальненне, якое немагчыма ні з чым параўнаць. Яна можа стаць сапраўдным сябрам і дарадцам, духоўным настаўнікам і строгім крытыкам. Пагадзіцеся, што ўсё гэта складана аднесці да электроннай кнігі, якая б высокатэхналагічная яна ні была. Ідэальная дзіцячая кніга — тая, якую маленькі чытач літаральна не выпускае з рук. Яна прыгожая, яркая, маляўнічая, добрая, вясёлая, павучальная і, канечне, пазнавальная. Менавіта такія мы імкнёмся выпускаць у нашым выдавецтве. Напрыклад, творы беларускага дзіцячага пісьменніка Віктара Ляскоўскага з выдатнымі ілюстрацыямі Віктара Чайчука. У цэлым працэс выдання добрай кнігі ад яе задумкі да выхаду ў свет прыносіць яе стваральнікам нямала прыемных імгненняў. Але самая высокая ўзнагарода — калі кнігу гэтую любяць дзеці!

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Дарослая размова пра дзіцячыя кнігі

Шараговаму чытачу можна падсунуць любое выданне. Напісаць, напрыклад, раман сумніўнага зместу, а выдаць яго за твор, прасякнуты глыбокай псіхалогіяй адносін мужчыны і жанчыны. Альбо ўзяць тэму, вакол якой вірують дэбаты, і прыкрываецца ёй, як шчытом. Скажам, апублікаваць слабы і нядатны аповед пра мужчынскае каханне, але ж ці хто скажа, што ён благі? Наўрад ці некаму схочацца звацца гамафобам. А часам дастаткова проста напісаць па-беларуску, калі ж яшчэ і без граматычных памылак, то могуць і геніем назваць. У любой краіне, у любыя часы закон «голага караля» працуе без збояў і рэдка — з баямі.

Адзіны чытач, на якога не падзейнічае ніякае аўтарытэтнае меркаванне, хмыканні і паляпванні па плячы, — гэта дзіця. Прыгадайце, хто ў казцы Андэрсена сказаў, што кароль голы.

І, здавалася б, усе гэта разумеюць, але ўсё адно на свет з'яўляюцца вершыкі, аздобленыя дзеяслоўнымі рыфмамі ці нечым кшталту «Беларуссю — ганаруся», усё адно выходзяць кніжачкі, у якіх добрага — адно ілюстрацыі (нізкі паклон нашым мастакам). А потым голыя каралі збіраюцца за круглым сталом і плачуць, што дзеці чытаюць адно «Гары Потэра». Не дзіва: я сама ахвотней чытаю брытанскую магічную казку.

Мы ўзялі пяць дзіцячых кніжак Выдавецкага дома «Звязда», каб адказаць на пытанне: а ці стануць іх чытаць дзеці? Калі адказ будзе станоўчы, усё астатняе — заўвагі, дробязныя прыдзіркі і плюсікі ў карму — не будзе мець ніякага значэння.

## КРАІНА СНОЎ, ЛЮБОЎ І КВЕТАЧКІ

Кацярына Хадасевіч-Лісавая — пісьменніца даволі вядомая. То бок, яе імя перыядычна з'яўляецца ў такіх жа перыядычных выданнях. Але, прызнацца, да «Казкі Сіняй падушкі» я нічога спадарыні Кацярыны не чытала.




Ад маладых заўжды чакаецца што-небудзь свежае, феерычнае, новае, нечаканае, хуліганскае і г. д. Бо хто, калі не яны! Нічога хуліганскага ў казках спадарыні Кацярыны я не знайшла. Вы можаце падняцца з-за стала, гнеўна паправіць пінжак і сказаць: «Выбачайце, але як можна дазволіць у дзіцячай літаратуры хуліганства? Што вы! Дзіцячая кніга павінна выхоўваць ў дзецях павагу да старэйшых, любоў да роднай зямлі…» І вось тут я вас перапыню, бо ўсё гэта — глупства. Па-першае, прыгадайце Астрыд Ліндгрэн і яе Пэпі Доўгаяпанчоха. Па-другое, дзіцячая кніга не павінна нічога, акрамя як быць цікавай, а значыць — жывой.

Галоўны герой кніжкі Стасік — паслухмяны (за адзіным выключэннем), ціхі і сціплы хлопчык. Ёсць рызыка, што ён вырасце мамчыным сынком, але мы пажадаем яму пазбегнуць гэтай страшнай долі. У Стасіка ёсць Сіняя падушка, з якой па начах вылазіць маленькі сябра Пухлік. Цікава, што ініцыялы СП дублююцца — у імёнах герояў і ў назве абавязковага для казкі чароўнага артэфакта — Сіняй падушкі. Проста супадзенне, ці гульня падсвядомасці, ці адсылка да Саюза пісьменнікаў, не ведаю. Дык вось: дзякуючы падушцы і Пухліку наш герой можа пераносіцца ў чароўныя краіны. Вось тут і разгортваецца фантазія аўтара.

Вялікі плюс кнігі — гэта рэчыўны свет, створаны высілкамі спадарыні Кацярыны, праўда, апісаны даволі скупа. У Кветкавай краіне палац караля Фларыстыкуса мае форму лілеі, стол — пялёстка, а крэслы — бутонаў; на клумбах растуць кветкі, якіх нам з вамі ніколі не пабачыць (прынамсі, цвярозымі). Тое ж — з віртуальным горадам і падводным светам, дзе мы сустракаем старога знаёмца Вадзяніка. Аднак казачніца не абмяжоўваецца вядомымі пра яго фактамі: яна праводзіць нас у кабінет падводнага цара, а Кікімара паўстае яго жонкай і мае прывабную знешнасць — у разрэз з міфалогіяй. Тут не магу не сказаць пра дзіўную страсць аўтаркі ўсіх жаніцьб: двойчы Стасік і Пухлік выступаюць у ролі сватоў, увогуле ж тэма кахання ці жаніцьбы гучыць у пяці казках з дзесяці. Другая папулярная тэма — застолле. Стасіка і Пухліка пастаянна кормяць. Што зробіш з жаночай натурай!

Праблема «бацькі і дзеці» сёння перафразуецца ў «камп'ютар і дзеці», і казачніца спрабавала развіць яе ў адной з частак, стварыўшы віртуальны горад. Выснова простая: рэальны свет лепшы за віртуальны. Але гучыць усё гэта неяк не вельмі пераканаўча.

Псуе ўражанне не заўжды натуральная мова. Дыялогі паміж Стасікам і мамай выглядаюць так, быццам вядуцца яны пры гасцях, перад якімі абавязкова трэба выглядаць прыстойна. Трапляюцца дзіўныя звароты і па-за дыялогамі: «Маляваначка ўстанаўлівае мальберт, раскладвае рабочы інструмент», «асноўную частку ўсіх маіх думак займае выяўленчае мастацтва», «іх увага была засяроджана на прыгажосці, што панавала вакол» і да т. п. Дзе ж магія, дзе паэзія? Ствараецца ўражанне, што аўтарцы не хапае разнявоненасці. Акрамя таго, назаляюць шматлікія падушачкі, вочкі, коўдрачкі, сыночкі і іншыя ахвяры памяншальна-ласкальных суфіксаў.

Як думаеце, што скажуць дзеці?

## КАРОЛЬ ЛІР СЯРОД СЛАВЯН

Бяспройгрышны варыянт — народныя казкі. У дзіцячай літаратуры яны адыгрываюць тую ж ролю, што Талстой — у рускай, Осцін — у англійскай і Бальзак — у французскай. Колькі ні выдавай — разбяруць. Але сёння ўзнікае пытанне: як успрымуць дзеці селяніна з сахою, калі большасць маленькіх чытачоў нават не ведае, што такое гэтая самая саха? Так, у кніжцы «Падарунак ад усяго сэрца» чытаем: «цугляе аброць няцугленую». Як патлумачыць




дзіцёнку, што ж адбываецца ў казцы, калі і самі дарослыя, па вялікім рахунку, не разумеюць, што гэта за аброць і як яе цугляць? І справа не ў тым, што народная казка аджывае сваё (пра гэта мы не кажам), але ў тым, што губляецца цэлы пласт народнай культуры.

Але вернемся да кнігі. Іван Чарота, вядомы славіст, сабраў пад адной вокладкай казкі славянскіх народаў: айчынныя, рускія, украінскія, балгарскія, польскія, чэшскія, славацкія, сербскія, харвацкія, македонскія і інш. Назва — «Падарунак ад усяго сэрца» — болей чым удалая, бо казка, як ні банальна, і ёсць сэрца народа. Калі ж складаць уяўленне пра народ па яго казках, атрымаем такую карціну.

Беларусы працавітыя, нават занадта. Першая ж казка «ў лоб» заяўляе горкую ісціну: лёгкага хлеба не бывае. Паны кругом злыя і несумленныя, мужыкі — бедныя, але хітрыя. А потым ты прыходзіш да высновы, зробленай Багушэвічам больш як сотню гадоў таму : «Кепска будзе».

У рускіх крыху весялей. Па пыльных дарогах брыдуць хітрыя, як беларускія мужыкі, салдаты, у бясконцых палях пасуцца буланыя коні, а на ростанях перад камянямі стаяць добрыя малойцы. Цікава, што большасць паварочвае направа, дзе «жанатым будзеш», а потым трагічна гіне. Не абыходзіцца і без Бабы Ягі. Увогуле, у рускіх казках болей жудасці, чым у нашых. Ёсць у іх нешта дрымучае, невытлумачальнае. Чытаць іх — усё адно што глядзець у бездань. Прыклад — палёт Івана-царэвіча на птушцы Нагай. У таго скончылася мяса, якім ён падкормліваў птушку, і тады царэвіч выразаў кавалкі мяса з ног і грудзей. Ёсць і на дзіва сучасныя моманты: «— Мамачка, мамачка, да нас нейкі п'яніца ідзе з галечай карчомнаю. / А Сінявочка ім: — Бярыце яго за белыя рукі, вядзіце ў шацёр. Гэта ваш родны бацька».

Украінцы рэпрэзентаваныя ў кніжцы асобай Пакацігарошка, да болю знаёмага беларусам. Дзяліць яго з братнім народам не будзем, бо вобраз архетыпічны: волат з добрым сэрцам і сталёвымі кулакамі, не прызнаны грамадствам і пакрыўджаны лёсам, які, аднак, заўжды смяецца апошнім.

Балгары даводзяць, што шчасце не ў грошах, і знаёмяць з мясцовай Рапунцэль — Тэнтэлінай. У палякаў і чэхаў уся надзея на чароўныя прадметы (самі яны мала варушацца). Славацкая казка «Локцебародых» нагадвае «Марозка», а «Соль даражэй, чым золата» — ні больш ні менш «Караля Ліра» Шэкспіра. Увогуле, чым далей на захад, тым часцей у казках сустракаюцца класічныя матывы брытанскага фальклору.

## ЦЁПЛАЕ…

Менавіта такое ўражанне пасля прачытання пакідае тоненькая кніжка Анатоля Зэкава «Як Гаўка ў космас збіраўся». Яна складаецца з трох частак: апавяданняў, вершыкаў і казак.

Героі першых — мілыя звяркі і дзеці, прычым дзеці самыя сапраўдныя і жывыя, такія, якіх можна ўбачыць у рэальным свеце, а не такія, якімі б іх хацелі бачыць дарослыя. Гэтыя дзеці гарэзяць, смяюцца і плачуць, зайздросцяць суседскім хлапчукам, крыўдуюць на маму і ў той жа час збіраюць для яе кветкі, катаюцца на лыжах, малююць паштоўкі, чытаюць кніжкі і не хочуць есці суп. А значыць, кніга сапраўды будзе цікавая дзецям. Нязмушаная, натуральная мова выклікае на дыялог. Між тым, Анатоль Зэкаў паспявае закрануць і такія неахопныя і вечныя тэмы, як стан экалогіі, жыццё і смерць,




аўтарытэт бацькоў, але ў тым і справа, што — закранае. Патрэбная думка застаецца ў галаве, але без таго гнятлівага ўражання, калі мараль прамаўляецца «ў лоб».

Усе дзеці без выключэння — філолагі. Дастаткова паназіраць, з якім захапленнем яны перакручваюць слоўцы, разбіваюць іх, змяняюць род і г. д. Таму і вершыкі Зэкава, гучныя, запамінальныя, прыйдуцца ім даспадобы. Што ўжо казаць пра загадкі. Праўда, на фоне вершыкаў яны выглядаюць не так удала.

## ПРЫНЦЭСА НА РОЛІКАХ

Пра «Рыжыка ў Залюстрэччы» вы, напэўна, ужо чулі. Колькі гадоў таму выйшаў аднайменны фільм. Прызнаюся, што фільм не глядзела, але цяпер ужо напэўна пагляджу.

Справа ў тым, што казка «Рыжык у Залюстрэччы», напісаная Аленай Туравай, апынулася нечакана добрай. У ёй




ёсць якраз тое, чаго цяпер бракуе — магія і архетыпы. Рудавалосая смелая дзяўчынка Рыжык (яна ж Вераніка) — жыццядайны пачатак, а яе маці — спакойная, мудрая, таксама смелая, але ціхая, вытанчаная — ідэальны жаночы вобраз. Да таго ж, яна працуе ў бібліятэцы, а гэта — знарок ці падсвядома — указвае на тое, што жанчына захоўвае таямніцы нашага свету.

Ёсць яшчэ адзін захавальнік, сімвал мудрасці — Бібілус. І якая казка можа спраўдзіцца без старога добрага злодзея? Маг Морыс, які ператвараецца ў Мортыса (мерцвяка) і прыносіць гора казачнай краіне Недаліі. Натуральна, ратуе яе наша Рыжык, якая апынаецца прынцэсай і захавальніцай важнага артэфакта.

«Рыжык у Залюстрэччы» — тыповае дзіця постмадэрнізму. Галоўная алюзія завязана на «Алісе ў Залюстрэччы» і «Алісе ў краіне цудаў» Льюіса Кэрала, што бачна не толькі па назвах казкі і раздзелаў, але і па самім сюжэце ды героях. Акрамя таго, узнікае безліч асацыяцый, пачынаючы са Шчаўкунка і заканчваючы Гамлетам. Хоць мікс і падаецца шалёным, атрымалася цудоўна. Часам дзеянне адбываецца занадта хутка, хочацца болей дэталяў, болей прачуць магію, але і гэта можна дараваць хоць бы за тое, што кожнае слова ў пісьменніцы на сваім месцы, а гэта значыць, няма месца пустому шматслоўю.

У тым, што дзіця зацікавіцца кнігай (толькі прымусьце прачытаць яго першыя пяць старонак), я не сумняваюся.

Дадамо, што акрамя «Рыжыка» ў кнігу ўвайшла яшчэ адна казка — «Навагоднія прыгоды ў ліпені», дзе размова ідзе пра барацьбу рэальнага дабра і віртуальнага зла.

## IX АДКАЗ

А вось і адказ вам, шаноўныя спадары дарослыя. Дзеці самі напісалі казкі. «Бунт у Чысляндыі» — вынік праекта дзіцячага часопіса «Качели».

Сюжэты і тэмы амаль не паўтараюцца (хоць, магчыма,




укладальнікі адмыслова абіралі такія тэксты). Што хвалюе дзяцей? Натуральна, яны пішуць пра тое, што адбываецца вакол іх: прыродныя з'явы, імёны і назвы, сяброўствы, вучоба, стасункі з бацькамі і інш. Звышновае пакаленне ўсур'ёз хвалюе панаванне пластыка — у ім дзеці бачаць увасабленне ўсяго бяздушнага. А яшчэ яны пакепліваюць з дарослых: у зборніку ёсць казка пра цуда-штонікі для пахудзення, у якія спрабаваў улезці слон.

І вось што прыйшло на розум: чаму б такія зборнікі не зрабіць перыядычнымі? Гэта патрэбна не толькі дзецям, якія будуць выяўляць і развіваць таленты і проста радавацца. Карысць відавочная таксама для сталых пісьменнікаў: пагартаўшы такі зборнік, яны ясней убачаць, што ж сапраўды хвалюе дзяцей і на якой мове з імі гаварыць.

Зрэшты, я думаю, такія падказкі патрэбныя толькі дарослым казачнікам. Тым жа, хто здолеў застацца дзіцём, дастаткова слухаць самога сябе.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Старыя паштоўкі: дарога ў заўтра

Сярод іншых сустрэч з кнігай і кніжнікамі, якія пройдуць на XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, — знаёмства з плёнам працы нашага знакамітага сучасніка, калекцыянера Уладзіміра Ліхадзедава. Рэдакцыя газеты «СБ. Беларусь сегодня», Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Выдавецкі дом «Звязда» прэзентуюць здабыткі, рэалізаваныя ў межах праекта «У пошуках страчанага». Якраз дзесяць гадоў таму на старонках «СБ. Беларусь сегодня» пачаліся публікацыі рэпрадукцый старых паштовак, прысвечаных гарадам, мястэчкам, розным мясцінам нашай краіны. І ўсе выявы — з калекцыі аднаго чалавека, апантанага збіральніка Уладзіміра Аляксеевіча Ліхадзедава.



Фота Кастуся Дробава

Прэзентацыя кнігі з удзелам аўтара адбудзецца 5 лютага ў 13.15 на 2-м паверсе выставачнага цэнтра БелЭКСПА.

У 2007 г. У. Ліхадзедаў, П. Якубовіч і А. Карлюкевіч былі адзначаны прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» за рэалізацыю гэтага творчага праекта. Але па-ранейшаму і ў самай масавай газеце краіны, і ў іншых перыядычных выданнях (у тым ліку ў газеце «Голас Радзімы», часопісах «Беларусь», «Маладосць», а таксама ў розны час у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва») друкуюцца рэпрадукцыі старых паштовак, якія расказваюць пра Беларусь. Звычайна да гэтых артэфактаў даўніны падаюцца цікавыя тэксты, эсэ, нарысы, карэспандэнцыі, рэпартажы. Разам сустракаюцца даўніна і сучаснасць. У гэтым паяднанні закладзены асаблівы сэнс: для моладзі — урок гісторыі, для іншых чытачоў — згадка пра багатую гістарычную памяць нашай Айчыны. Старыя паштоўкі дапамагаюць асэнсаваць учарашні дзень і разам з тым дасведчанага, адукаванага чалавека вядуць у заўтра. Гісторыя выхоўвае на блізкіх і зразумелых прыкладах.

У пярэдадзень выстаўкі да чытача прыйшла і новая кніга праекта «У пошуках страчанага» — «Путешествие во времени» (аўтары — Алесь Карлюкевіч, Уладзімір Ліхадзедаў, у кнізе прадстаўлены паштоўкі з калекцыі У. Ліхадзедава). Альбом выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Разам сабраны нарысы пра розныя гарады нашай краіны. Пакуль старонкі кнігі перагортваюць першыя чытачы, нагадаем кніжную біяграфію праекта «У пошуках страчанага». Менавіта над такім выяўленнем старых паштовак як арсенала гістарычных ведаў пра Беларусь у розныя гады пачынаючы з 2006 г. працавалі выдавецтвы «Рыфтур», «Тэхналогія», «Літаратура і Мастацтва», Выдавецкі дом «Звязда»… Пабачыла свет паўтара дзясятка па-свойму ўнікальных альбомаў. Вось назвы толькі некаторых з іх: «Минск: путешествие во времени», «Беларусь і мусульманскі свет», «Святой Александр Невский. Православные храмы на почтовых открытках конца 19 — начала 20 века», «1812: Памятники Отечественной войны на старых почтовых открытках», «1812: Хронология Отечественной войны на старых почтовых открытках и в графике», «Тадэвуш Касцюшка на старых паштоўках і ў графіцы»… Абапіраючыся ў сваёй няпростай справе на шэраг паплечнікаў, Уладзімір Ліхадзедаў за дзесяцігоддзе здолеў зрабіць вельмі шмат. Ахвяруючы час галоўнай справе — калекцыяніраванню, ён даказаў, што паштоўка можа і павінна з'яўляцца выключна важнай крыніцай гістарычнага асветніцтва.




Выданне кожнай са згаданых кніг заўсёды суправаджалася шырокай увагай грамадскасці. Ладзіліся прэзентацыі ў сталічных і мясцовых музеях. Кнігі, самі публікацыі ў газеце «СБ. Беларусь сегодня», у часопісах «Беларусь» і «Маладосць» сталі штуршком для ініцыятыўнай работы на месцах. Выстаўкі старых паштовак прайшлі ў Слуцку, Вілейцы, Мар'інай Горцы, Жыровічах, Полацку, Магілёве… Пра кнігі і здабыткі калекцыянера Уладзіміра Ліхадзедава шмат пісалі ў друку не толькі Беларусі, але і Расіі. Двойчы ў Мінску на базе Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пры актыўным удзеле гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ладзіліся міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі, на якія прыязджалі філакартысты з Кіева, Санкт-Пецярбурга, Краснаярска, Масквы, Адэсы… У шэрагу навучальных устаноў нашай краіны наладжаны пастаянна дзеючыя выстаўкі старой паштоўкі. Асновай для іх фарміравання паслужылі выявы паштовак з калекцыі У. Ліхадзедава.

Рэалізацыя праекта «У пошуках страчанага» сведчыць, што інтарэс да старой паштоўкі адыгрывае выключную ролю ў спасціжэнні нашай гісторыі. Відавочна, наспела сістэматызацыя ідэй, што агучваліся на працягу такога значнага адрэзка часу. Тыражы кніг, якія прадстаўляюць рэпрадукцыі паштовак з калекцыі У. Ліхадзедава, не дужа вялікія. У многіх школах краіны такіх выданняў проста няма. Прывяду прыклад. У адным з расійскіх рэгіёнаў зусім нядаўна выдалі альбом з паштоўкамі такім накладам, што кніга можа патрапіць ледзьве не ў кожную сям'ю. А для таго, каб зменшыць выдаткі пакупніка, выданне істотна прафінансаваў губернатар. Хіба ж не ўрок гістарычнай памяці ў самім факце такой увагі?!

Мінску патрэбны музей старой паштоўкі! Час ад часу паўстаюць пытанні размяшчэння калекцый. Чаму б не падумаць ужо пра заўтрашні лёс калекцыі Уладзіміра Аляксеевіча Ліхадзедава? У Маскве ў навучальны працэс уключаны ўрокі масквазнаўства. Калі б у нашай сталіцы ўвялі мінсказнаўства, то, несумненна, частку такога факультатыву заняла б праграма «Мінск у філакартыі» (альбо з іншай назвай: «Мінск на старых паштоўках»).

Яшчэ адна істотная заўвага. Паштоўка — і гэта сцвярджае досвед рэалізацыі праекта «У пошуках страчанага» — сапраўдны мост народнай і нават дзяржаўнай дыпламатыі. Між іншым, кнігі У. Ліхадзедава прэзентаваліся ў бібліятэцы Кангрэса ЗША, музеях і сядзібах фондаў Злучаных Штатаў Амерыкі, Польшчы, іншых краін свету. І гэтую працу маглі б прадоўжыць нашы айчынныя пасольствы, якія прадстаўляюць інтарэсы Беларусі ў свеце. Каб расказаць пра Беларусь? Не толькі. Мэта — паказаць нашу краіну, народ Беларусі ў супольніцтве з іншымі краінамі і народамі. Змест многіх паштовак з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава падштурхоўвае да гэтага.

**Максім ЗАЗЕРКА,**
**паштоўкі з калекцыі**
**Уладзіміра ЛІХАДЗЕДАВА**




*Крэва. Лінія нямецкай абароны ля касцёла. 1916.*




*Полацк. Від на горад і раку Заходнюю Дзвіну (пач. XX ст.).*




*Мінск. Саборная плошча (пач. XX ст.).*

# Год выдатных выданняў

Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, якая па традыцыі праходзіць у краіне на пачатку лютага, не толькі распачынае новы выдавецкі сезон у Беларусі і СНД, але і ў некаторай ступені падводзіць вынікі папярэдняга года ў кнігавыданні. Якім быў 2013 год у гісторыі выдавецкай справы Беларусі? Ці заўважаюцца новыя тэндэнцыі ў галіне? Ці змянілася дзейнасць сферы з улікам усё больш актыўнага распаўсюджвання электронных выдавецкіх прадуктаў? На старонках «Кніжнага свету» вынікі мінулага года «ЛіМ» падводзіць разам з дырэктарам Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Аленай Івановай.


Фота Кастуся Дробава

**— Алена Вітальеўна, думаецца, на пачатку нашай гутаркі варта прыгадаць першую знакавую падзею для прафесіяналаў выдавецкай справы мінулага года — уступленне ў дзеянне новага Закона «Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь». Што змянілася з часу яго ўвядзення?**

— У цэлым Закон лагічна аб'яднаў у адзіны комплекс выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў. Безумоўна, гэта з'яўляецца станоўчым момантам, бо робіць выдавецкую сферу больш празрыстай, дазваляе ажыццяўляць маніторынг яе стану ў цэлым — і па выпуску, і па распаўсюджванні выданняў. Згодна з Законам цяпер выдаўцы праходзяць дзяржаўную рэгістрацыю — працэдуру, якая замяніла ліцэнзаванне выдавецкай дзейнасці. Пры гэтым узмацнілася адказнасць выдаўцоў за выпуск выданняў без выходных звестак, парушэнне парадку рассылкі абавязковых экзэмпляраў, парушэнне аўтарскага права і ў іншых выпадках.

**— Звычайна напрыканцы студзеня Кніжная палата краіны падводзіць вынікі працы айчыннай сістэмы кнігавыдання за папярэдні год. Якім быў 2013 выдавецкі год у колькасных паказчыках?**

— За мінулы год у нашай краіне была выпушчана 11 441 назва кніг агульным тыражом 31,4 мільёна асобнікаў. Такім чынам, на аднаго жыхара краіны прыйшлося 3,3 кнігі. Сярэдні тыраж адной кнігі — 2,7 тысячы экзэмпляраў. Нягледзячы на тое, што ў адносінах да паказчыкаў 2012 года колькасць назваў кніжнай прадукцыі павялічылася прыкладна на 1 працэнт, летась працягвалася падзенне сукупнага гадавога тыражу — прыкладна на 5 працэнтаў. У цэлым варта падкрэсліць, што ў краіне ўсё больш яскрава прасочваецца тэндэнцыя скіраванасці кніжнай прадукцыі на мэтавую чытацкую аўдыторыю, якую выдавец, каб пазбегнуць перавытворчасці тыражу, спачатку спрабуе акрэсліць колькасна. Менавіта гэта і стала адным з чыннікаў зніжэння і тыражоў, і аб'ёмаў выдання кніжнай прадукцыі.

**— Напэўна, вам ужо вядомыя і адпаведныя лічбы з Расіі і Украіны. Як у параўнанні з нашымі краінамі-суседкамі выглядае кнігавыданне Беларусі?**

— Па колькасці назваў выдадзеных кніг (у параўнанні з паказчыкамі 2012 года) летась у Расіі назіраўся рост прыкладна на 3 працэнты. Ва Украіне гэтая лічба павялічылася на 6,6 працэнта. Што да сукупнага тыражу, то ў Расіі яго рост зусім нязначны — 0,2 працэнта, а ва Украіне ў параўнанні з 2012-м гэтая лічба павялічылася больш чым на 16 працэнтаў. Таму можна сцвярджаць, што па асноўных паказчыках Беларусь бліжэй да Расіі, чым да Украіны. Але мне падаецца, не зусім правільна параўноўваць паказчыкі кнігавыдання ў такіх розных па колькасці насельніцтва краінах, як Расія, Украіна, Беларусь. Важныя ўдзельныя паказчыкі — напрыклад, колькасць назваў кніг на 1 мільён жыхароў. І тут у Беларусі не самыя горшыя вынікі. Так, за 2013 год у нашай краіне было выдадзена 1200 кніг на 1 мільён чалавек. Для параўнання: у Расіі гэтая лічба склала 840 назваў, ва Украіне — 600. Адносна тыражоў карціна наступная: на 1 жыхара Беларусі выпушчана 3,3 кнігі, Расіі — 3,8, Украіны — 1,5 кнігі.

**— Выходзячы з іншых лічбавых паказчыкаў, якія яшчэ тэндэнцыі заўважаюцца ў айчынным кнігавыданні?**

— Працягваецца рост выпуску малатыражных кніг (іх наклад меншы за 500 асобнікаў), у 2013 годзе ўдзельная вага такіх выданняў склала ўжо 52,6 працэнта. Сума іх тыражу па-ранейшаму невялікая — 3,5 працэнта ад агульнага тыражу кніжнай прадукцыі. У падобнай сітуацыі можна казаць пра тое, што практычна палову выпуску кніжнай прадукцыі краіны складае так званая «шэрая» літаратура, што не мае шырокага распаўсюджвання на рынку. Гэта ведамасная, універсітэцкая і іншая літаратура вузкага прызначэння. Такая з'ява звязана перш за ўсё з развіццём лічбавага друку. Выдаткі на дадрукоўку тыражу нязначныя, таму, каб пазбегнуць перавытворчасці, выдаўцы хутчэй кнігу дадрукуюць у выпадку запатрабаванасці, чым пойдуць на рызыку мець нераспрададзеныя рэшткі.

Колькасць новых і паўторных выданняў — яшчэ адзін паказчык, які дазваляе зрабіць пэўныя высновы: меркаваць пра аб'ём новай інфармацыі, якая ўводзіцца ў зварот праз кнігі, а таксама засведчыць, ці ўмеюць выдаўцы знаходзіць праекты, што адпавядаюць чытацкаму попыту, і наколькі выдавецтвы імкнуцца задаволіць гэты попыт. У большасці краін, і ў Беларусі, у паўторныя выданні не ўключаюцца дадрукоўкі і перадрукі — публікацыі, якія не маюць ніякіх змен у змесце і форме. Такія кнігі ўвогуле не ўлічваюцца статыстыкай у якасці асобнага выдання. Так, паводле нашых дадзеных, у краіне назіраецца тэндэнцыя падзення ўдзельнай вагі новых выданняў: у 2013 г. яны склалі 83,3 працэнта, у той час як у 2012-м гэты паказчык быў на тры працэнты большы, а ў 2001-м удзельная вага новых выданняў складала аж 93,8 працэнта. У прынцыпе, лічыцца, што ў краінах, дзе агульная колькасць выдадзеных кніг досыць вялікая, назіраецца некаторае зніжэнне ўдзельнай вагі першых выданняў.

Адметна, што нашы выдаўцы па-ранейшаму аддаюць перавагу выпуску кніг у мяккай вокладцы. Такіх выданняў 77,8 працэнта ад агульнай колькасці. Астатнія — у цвёрдым пераплёце. Пра што гэта сведчыць? З аднаго боку, цвёрды пераплёт мае прэзентабельны знешні выгляд, такая кніга трывалая і можа доўга служыць чытачу. А мяккая вокладка — танная, і тэхналогія яе вырабу больш простая. Але ў той жа час вокладка, можа, і ўскосна, але сведчыць пра якасць кнігі, неабходнасць яе доўгачасовага захоўвання. З іншага боку, цалкам заканамерна, што выданняў у цвёрдай вокладцы мала, бо для паўсядзённага выкарыстання ці чытання ў вольны час яны цяжкія і нязручныя. Што цікава: кнігі ў цвёрдым пераплёце выпускаюцца досыць вялікімі тыражамі.

**— Колькі беларускамоўных кніг было выдадзена ў краіне цягам 2013 года?**

— Доля выпуску беларускамоўных кніг практычна застаецца на ўзроўні апошніх пяці гадоў — крыху больш як 10 працэнтаў ад агульнай колькасці. Больш за ўсё кніг пабачыла свет на рускай мове — 82,5 працэнта. Выйшлі таксама кнігі на англійскай, нямецкай, французскай, польскай, іспанскай і іншых мовах.

**— Ці змянілася за мінулы год колькасць выдаўцоў, якія актыўна ўдзельнічалі ў кніжным жыцці краіны?**

— Да канца 2012 года Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь выдала 643 ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць. Сярод ліцэнзіятаў — арганізацыі дзяржаўнай, недзяржаўнай і змяшанай формаў уласнасці, індывідуальныя прадпрымальнікі, грамадскія і рэлігійныя арганізацыі, адукацыйныя ўстановы. Больш як палова з іх — камерцыйныя выдавецтвы і ўнітарныя прадпрыемствы. Але калі прадпрыемства мае права ажыццяўляць выдавецкую дзейнасць, гэта зусім не азначае, што яно актыўна ім карыстаецца. Так, у 2013-м актыўнасць выявілі толькі 377 выдаўцоў (58,6 працэнта ад колькасці зарэгістраваных). З іх 106 за год выпусцілі ўсяго адну ці дзве кнігі. Падкрэслю, што год ад году колькасць выдаўцоў павялічваецца: і грамадзяне, і арганізацыі актыўна выказваюць жаданне займацца выдавецкай справай. Аднак для большасці з іх гэта не асноўны, а дадатковы працэс у прафесійнай дзейнасці. Сярод прадуктаў працы падобных выдаўцоў, як правіла, няма сапраўды вартых увагі праектаў: імі галоўным чынам кіруе жаданне атрымаць прыбытак ад выданняў, якія выпускаюцца за кошт сродкаў аўтара ці заказчыка.

**— Якія айчынныя выдавецтвы сталі летась лідарамі па колькасці назваў і тыражу выдадзеных кніг?**

— Лідар дзясяткі — па-ранейшаму выдавецтва «Харвест», але калі на працягу апошняга дзесяцігоддзя яно штогод забяспечвала ад 22 да 27 працэнтаў выпуску кніг па назвах і каля 40 працэнтаў па тыражы, то ў 2013 годзе колькасць выпушчаных тут кніг па назвах скарацілася да 10,7 працэнта, а па тыражы — да 19,5 працэнта. На працягу многіх гадоў у дзясятцы лідараў утрымліваюць свае пазіцыі «Аверсэв», «Папуры», «Народная асвета», «Белы вецер», «Выдавецкі цэнтр БДУ», «Букмайстар».

**— Сёння ўсё часцей выдаўцы абмяркоўваюць актуальныя пытанні працы над электроннымі кнігамі. Кніжная палата краіны ўжо вядзе іх улік?**

— Нягледзячы на тое, што ў Беларусі пакуль не праводзілася маштабных даследаванняў рынку электронных выданняў, ніхто не стане адмаўляць уплыву гэтага сегмента на традыцыйнае кнігавыданне, а таксама таго, што электронныя кнігі становяцца прыярытэтным рэсурсам і яны запатрабаваны чытачамі. Сёння ў Беларусі няма механізму, які б дазваляў паўнавартасна адсочваць рынак электронных выданняў. Няма і выразнага ўяўлення пра тое, якім павінен быць гэты механізм. Справа ў тым, што электронныя выданні закранаюць не толькі сферу выдавецкай справы, але і такія складаныя і шматгранныя галіны, як электронна-бібліятэчныя сістэмы, электронныя бібліятэкі, інтэрнэт-гандаль, аўтарскае права. Акрамя таго, на сённяшні дзень у выдавецкім асяроддзі не сфарміравалася адназначнага вызначэння таго, што варта адносіць да электронных выданняў як аб'екта выдавецкай справы. Няма пакуль дакладна сфарміраванай практыкі продажу выдавецкага кантэнту і разумення, як выдаўцу будаваць адносіны з аўтарам. А гэта, безумоўна, спрыяе распаўсюджванню пірацкіх рэсурсаў, іх колькасць сёння, па некаторых падліках расійскіх спецыялістаў, дасягае 80 — 90 працэнтаў.

Пакуль электронныя выданні не займаюць вызначальных пазіцый на рынку кнігавыдання ў цэлым і ў Беларусі ў прыватнасці. Паводле дадзеных ведамаснай статыстычнай справаздачнасці беларускіх выдаўцоў, доля такіх выданняў у іх прадукцыі складае каля 4 працэнтаў, а выпускам электронных выданняў займаюцца каля 5 працэнтаў выдаўцоў з усіх зарэгістраваных Міністэрствам інфармацыі краіны. Вядома ж, рынак электронных кніг будзе імкліва расці: уводзяцца новыя сістэмы аплаты, з'яўляюцца новыя прылады для чытання. Але гэта не сведчыць пра тое, што друкаваная кніга памірае ці што пераарыентацыя чытачоў на электронныя кнігі — гэта дрэнна. Гэта сведчыць толькі пра тое, што наша краіна, як і ўвесь цывілізаваны свет, знаходзіцца ў стане актыўнай змены, мадэрнізацыі і руху ў бок інфармацыйнага грамадства. Дадзены працэс суправаджаецца зменамі практычна ва ўсіх сферах, а не толькі ў кнігавыданні. Было б наіўна чакаць, што распаўсюджванне інфармацыйных тэхналогій прывядзе да самаарганізацыі кнігавыдання. Таму ў гэтай галіне таксама патрэбныя маштабныя нацыянальныя праекты, такія, напрыклад, як стварэнне Нацыянальнай электроннай бібліятэкі.

Марына ВЕСЯЛУХА

# Маркетынг для бестселера

Праект «Павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў выдавецкай справы» працягваецца.
Так, напярэдадні XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ў Інстытуце імя Гётэ ў Мінску пройдзе спецыяльны семінар, у якім гэтым разам возьмуць удзел супрацоўнікі аддзелаў продажу і маркетынгу выдавецтваў і кнігарняў. Тэма семінара — «Звесці разам кнігу і чытача. Павелічэнне аб'ёму продажу з дапамогай маркетынгавых канцэпцый». У якасці рэферэнта выступіць Ціна Улеман, кіраўнік аддзела продажу нямецкага выдавецтва «Піпер ферлаг».



*Спадар Ціна Улеман.*

Спадар Ціна мае надзвычай багаты досвед працы ў галіне кнігавыдання і кніжнага гандлю. Пасля навучання ва ўніверсітэце ён разам з кампаньёнамі адкрыў кнігарню ў Дрэздэне, некаторы час працаваў у выдавецтве «Бух унд Кунст ГмбХ», змяніў яшчэ некалькі месцаў працы, пасля чаго ў 1993 годзе заняў пасаду кіраўніка аддзела продажу на тэрыторыі замежных нямецкамоўных краін і на пабочных рынках у выдавецтве «Ровальт». Пазней спадар Улеман працаваў кіраўніком аддзела збыту вядомага выдавецтва «Гофман унд Кампэ» ў Гамбургу, а таксама ў выдавецкай групе «Рэндам Хаўс». З 2008 г. ён займае пасаду кіраўніка аддзела збыту выдавецтва «Піпер ферлаг» у Мюнхене, а таксама з'яўляецца сябрам яго праўлення.

Падчас семінара ў Мінску спадар Ціна Улеман распавядзе, як з дапамогай мэтанакіраванай маркетынгавай стратэгіі прапанаваць яшчэ большую колькасць кніжак яшчэ большай колькасці чытачоў, як не толькі здабыць сталых кліентаў, але і адкрыць для сябе новыя магчымасці збыту. Некаторыя кнігі сталі бестселерамі на рынку, іншыя зазналі фіяска. На дакладных прыкладах з уласнай практыкі прычыны патлумачыць спадар Ціна. Удзельнікі мерапрыемства даведаюцца пра асноўныя інструменты стварэння ўласнай стратэгіі маркетынгу і збыту, лепш зразумеюць патрэбы кліентаў.

Рэферэнт падкажа таксама, чаму можна навучыцца ў кліентаў, як разлічваць патэнцыял рынку, ці рэальна яшчэ на пачатковым этапе падрыхтоўкі ацаніць канкурэнтаздольнасць праекта. Спадар Ціна распавядзе, якія фактары ўлічваць пры планаванні прыбытку і як некаторыя з іх могуць павысіць аб'ём абароту.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Паралелі*

# Тэкст. Змест. Ілюстрацыя

Думаецца, лішнім будзе падкрэсліваць, што для замежных экспанентаў удзел у Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы — гэта магчымасць не толькі пазнаёміць беларусаў з кніжнай спадчынай сваёй краіны, але і шанц прадставіць уласную гісторыю, культуру, геаграфію. Поруч з выданнямі на стэндзе можна размясціць і іншыя рэчы, па якіх, як па кнізе, лёгка «прачытаць» дадатковыя звесткі. Да прыкладу, слова «комікс» у свядомасці многіх чытачоў адразу «намалюе» самых папулярных іх персанажаў, а таксама і вобраз Злучаных Штатаў Амерыкі. Дарэчы, Пасольства ЗША ў Мінску падчас кірмашоў у беларускай сталіцы актыўна карыстаецца гэтай выдатнай магчымасцю яшчэ раз распавесці пра сваю краіну. На стэндзе ладзяцца дадатковыя тэматычныя выстаўкі, праводзяцца віктарыны для наведвальнікаў з магчымасцю выйграць прыз. Вось і сёлета традыцыя будзе працягнутая, а ў цэнтры ўвагі апроч новых уласна кніжных амерыканскіх выданняў апынуцца… коміксы. Чытачам «Кніжнага свету» ўжо добра знаёмыя імёны некаторых мастакоў, якія актыўна працуюць у гэтым жанры. Варта прыгадаць хаця б Рычарда Сала і яркія вобразы вампіраў і вядзьмарак, якія ён стварае ў сваіх работах. Сёння мы пазнаёмім вас з яшчэ адным амерыканскім мастаком. Праўда, коміксаў ён пакуль не малюе, але актыўна стварае ілюстрацыі да такіх папулярных перыядычных выданняў, як *The New York Times, The Verge, The Wall Street Journal.* Сустракайце: Кэм Флойд.

**— Кэм, чаму вырашылі стаць мастаком?**

— Бацькі пазнаёмілі мяне з мастацтвам, калі я быў яшчэ маленькі. Ужо з дзяцінства рабіў нейкія замалёўкі. Нават калі вучыўся ў пачатковай школе, меў нататнік, які паступова запаўняўся малюнкамі фігурак, зброі, касмічных караблёў з тысячамі гармат, чараўнікоў, рыцараў, монстраў… Мяне заўсёды захапляла такая магія, калі ідэя спачатку з'яўляецца ў галаве, а потым, праходзячы праз рукі, увасабляецца на паперы. Падабаўся і непасрэдна працэс малявання, і яго вынік — пэўны прадукт, які я ўжо мог паказаць іншым. Гэта нібыта фізічнае ўвасабленне майго намагання, мой уласны здабытак. Я вырашыў стаць мастаком, калі зразумеў, што хтосьці мае такую працу і малюе ўвесь час. Дык чаму б мне не заняцца? Прыняўшы рашэнне, абяцаў сабе больш старацца, але праца над развіццём яшчэ не скончаная.

**— Вы ствараеце ілюстрацыі да тэкстаў, якія публікуюцца ў многіх перыядычных выданнях. Ці можна сцвярджаць, што малюнак для часопіса, газеты — асобны жанр мастацкай творчасці?**

— Ілюстрацыя ў першую чаргу і галоўным чынам выкарыстоўваецца ў перыядычных выданнях, каб падкрэсліць, вылучыць нейкую частку зместу. Гэта можа быць артыкул, апавяданне, рэклама… Такі малюнак сам па сабе, асобна ўзяты, можа быць прыгожым і цікавым, але, у адрозненне ад карціны, ён дасягае мэты толькі калі падаецца «ў пары» са з'явай, што натхніла мастака. Ілюстрацыя — не карціна, не жывапіс. У той жа час карціна можа быць ілюстрацыяй, калі мы ўявім, што яна выконвалася як дадатак да нейкага тэксту. Ілюстрацыя не мае на мэце непасрэдны візуальны ўплыў на чытача, але яна дапамагае ўзмацніць уражанне ад літаратурнага твора.

**— Калі вы працуеце над ілюстрацыяй, імкнецеся, каб яна паўтарала асноўную ідэю тэксту? Ці, можа, алегарычна суадносілася са зместам?**

— Я магу змяняць падыход у залежнасці ад тэксту. І, па сутнасці, павінен гэта рабіць. Сумна ўвесь час проста «перакладаць», пераказваць, што адбываецца ў артыкуле. Ды і не патрэбна, бо асноўная ідэя ўжо выказаная ў тэксце. Ілюстрацыя павінна нейкім чынам асвятляць далейшае развіццё ідэй ці настрояў, выказаных у падтэксце. Падыход, які варта выбраць, заўсёды залежыць ад крыніцы зместу. Часта дастаткова проста паказаць настрой ці пачуцці, выкліканыя артыкулам, а не маляваць кожнае дзеянне ці прыдумваць складаную метафару. Менавіта падыход, што выкарыстоўвае ілюстратар у працы са зместам, — адна з важных характарыстык яго асабістага стылю.

**— Здаралася так, што адвольна намаляваныя героі, вобразы, карціны станавіліся паўнавартаснымі ілюстрацыямі да прапанаваных вам тэкстаў?**

— Некалькі гадоў таму я намаляваў карціну сярэднявечнага горада, над якім ляцеў стылізаваны цмок. Пазней малюнак быў выкарыстаны ў якасці ілюстрацыі да артыкула пра новыя тэхналогіі. Думаю, мастацкі рэдактар успрыняў вобраз цмока як метафару з'яўлення новых і патэнцыяльна небяспечных ідэй.

**— Вы пішаце ў сваім блогу, што часам павінны ілюстраваць тэкст, які вам зусім не падабаецца…**

— Часта гэта проста артыкул, які закранае не цікавую мне тэму, да прыкладу, тонкасці закона пра іпатэку ці новага падатковага кодэкса. Але гэта і выпрабаванне — прадставіць нецікавы змест так, каб ён захапіў чытача. Артыкул заўсёды лепш працуе і лепш чытаецца, калі змяшчае актуальныя, своечасовыя звесткі, таму я стараюся знайсці больш грунтоўныя ідэі, чым тыя, што плаваюць на паверхні.

**— Ці ёсць у вас любімыя тэмы, героі? Якім павінен быць тэкст, каб вас цалкам задавальняла магчымасць ілюстраваць яго?**

— Праца з тэмай, якая развівае мой уласны стыль, прыносіць найбольшае задавальненне. Дапамагае і ўсведамленне таго, што ты працуеш з мастацкім рэдактарам, які табе давярае, і гатовы пайсці на рызыку. Складана выпрацаваць цікавыя думкі, калі ты адчуваеш ціск і неабходнасць паказаць ужо прыдуманую мастацкім рэдактарам канцэпцыю. Мае любімыя тэмы (апроч уласна мастацтва) — навуковая фантастыка і тэхналогіі. Да прыкладу, прыгадваю цікавы артыкул пра выкарыстанне датчыкаў руху, змешчаных у смартфонах, для вызначэння вібрацый зямлі і стварэння карты сейсмічнай актыўнасці на пэўнай тэрыторыі.



*Аўтапартрэт.*



*Ілюстрацыя да артыкула, які не так даўно быў апублікаваны ў The Wall Street Journal. Тэкст распавядаў пра просты і танны сродак медыцынскай дыягностыкі. Гэта кавалачак спецыяльна апрацаванай паперы, які можа выкарыстоўвацца для розных мэт — ад тэсціравання якасці вады да пастаноўкі пэўнага дыягназу.*

**— Вы ўжо адзначылі ўплыў мастацкага рэдактара на працу ілюстратара. А як наконт аўтараў?**

— Некаторыя цалкам развязваюць мне рукі і дазваляюць рабіць усё так, як лічу патрэбным. Большасць сапраўды давярае мастакам — адно каб малюнкі былі гатовыя своечасова. А некаторыя імкнуцца кантраляваць кожны крок. Мне падабаецца працаваць з дасведчанымі мастацкімі рэдактарамі. Яны выказваюць цікавыя ідэі, скіроўваюць працу мастака, не навязваючы ўласныя думкі і рашэнні сілай. Многія мастацкія рэдактары маюць вялікі досвед і самі з'яўляюцца выдатнымі дызайнерамі, таму выдатна, калі яны дапамагаюць, каб і твая работа выглядала лепш.

**— Колькі часу патрэбна, каб намаляваць ілюстрацыю?**

— Усё залежыць ад памеру і колькасці дэталяў, якія трэба прамаляваць. Праца робіцца ў залежнасці ад таго, як тэрмінова яна патрэбная. Калі ж малюю нешта для сябе, то раблю ўсё больш павольна і абдумана, хачу пачакаць, пакуль не будзе знойдзены найлепшы шлях выказаць думку. Вельмі часта працэс «выношвання» ідэі можа заняць больш часу, чым яе рэалізацыя.

**— Што можа натхніць вас?**

— Як ілюстратар не магу сабе дазволіць такой шыкоўнай рэчы — проста сядзець і чакаць, пакуль натхненне знойдзе мяне. Я сам стараюся шукаць яго, каб проста пераканацца, што жыву: хаджу ў паходы, наведваю музеі, канцэрты, смачна ем, чытаю, займаюся сёрфінгам… Я адчуваю сябе натхнёным тады, калі мой мозг — нібыта выціснутая губка і мне патрэбна новая інфармацыя, новыя ўражанні.

**— А што чытаеце?**

— Мне падабаюцца кнігі, неабходныя для працы, а таксама мастацкая і дакументальная проза, але заўважаю, што зноў і зноў вяртаюся да класікі. Як мастак знаходжу натхненне ў велічных ідэях гэтых кніг, а таксама ў майстэрстве, з дапамогай якога іх выказаў аўтар. У ліку любімых аўтараў — Дастаеўскі, Конрад, Муракамі, Камю…

**— Калі-небудзь спрабавалі ілюстраваць кнігі?**

— Хацеў бы гэтым заняцца, але пакуль не было прапаноў аформіць нейкія новыя, сучасныя выданні. Падчас навучання ілюстраваў вокладкі для кніг «Сэрца цемры» Джозэфа Конрада, «Чужаніца» Альбера Камю і п'есу «Equus» Пітэра Шафера. Мне спадабалася, бо такая праца дае мастаку больш шырокія магчымасці для выяўлення ўласнага бачання, чым проста ілюстраванне каротkіх артыкулаў. Мне падабаецца і думка пра тое, што ў такім выпадку мая работа будзе асацыіравацца з кнігай, ствараць знешняе аблічча твораў, якія я так люблю.

**Марына ВЕСЯЛУХА, малюнкі Кэма ФЛОЙДА**

# Если издавать с умом

Издательство «Харвест» — одно из крупнейших в нашей стране. Оно входит в холдинг российского гиганта «АСТ», распространяет его книги на белорусском рынке, но готовит и самостоятельные проекты. Каким был для «Харвеста» 2013 год? Изменились ли общие тенденции развития российско-белорусского книжного рынка? Какие новинки будут представлены публике во время XXI Минской международной книжной выставки-ярмарки? На эти и другие вопросы ответила Елена Бобр, заместитель директора по вопросам торговли ООО «Харвест».


Фото Константина Дробова

**— Елена Михайловна, в начале года принято подводить итоги, отмечать успехи и искать причины неудач. Каким был прошедший год для издательства «Харвест»?**

— Не самым лёгким. Это связано с новыми отношениями и новым регламентом работы с издательством «АСТ». По-другому строятся рабочие и финансовые отношения, несколько усложнился процесс согласования. Но, в принципе, за год уже отлажены все направления совместной деятельности. Кроме того, параллельно налажена работа с крупным российским издательством «Эксмо».

**— Какие тенденции в книгоиздании наблюдались в 2013 году?**

— Мы всё время в поиске. Ведь от того, насколько интересными будут новые идеи, зависит успех книги и, в частности, результат её продаж. Приходим совместно к новым форматам, ищем новые формы подачи материала, покупаем новый иллюстративный материал, знакомимся с новыми авторами. Разработан ряд серий для детей, школьников, специальных серий для продажи в гипермаркетах. Несмотря на то, что во многих странах, в том числе и в России, идёт тенденция к сокращению читательского спроса, мы пока ещё этого не ощущаем.

**— Изменилось ли количество книг, издаваемых «Харвестом» самостоятельно?**

— Да, сегодня мы уже готовы издавать книги только для белорусского читателя. Совместно с торговым отделом редакцией разработана специальная программа: это детские популярные энциклопедии, белорусские сказки, книги для развития малышей, тетради, издания для внеклассного чтения и многое другое.

**— Какие проекты 2013 года вы можете назвать самыми успешными?**

— По-прежнему — детская литература. Продолжаем издавать книги в серии «Большие буквы, большие картинки», подготовили несколько проектов в новой серии «Отличная энциклопедия» для детей постарше: «Космос», «Животные», «Человек», «Птицы», «Насекомые», «Подводный мир» и т. д. Как ни странно, достаточно большим спросом пользовались у читателей издания серии «Самая нужная книга для самого нужного места». Что это? Простое человеческое любопытство или книги только и читают в «самом нужном месте»? Подготовлен ряд кулинарных книг для пользователей сравнительно новой у нас бытовой техники: «Мультиварка», «Пароварка» и «Хлебопечка». Продаются эти кухонные машины, а с ними и наши книги. Большая работа была проведена над подготовкой книги-альбома «Минск», и вот, наконец, она вышла в свет!

**— Сегодня многих издателей волнует вопрос поиска рынков сбыта продукции. Где читатель может найти ваши издания?**

— Мы по-прежнему работаем с ОАО «Белкнига» во всех областях Беларуси, а также с такими сетями, как «Простор», «Корона», «Буслік», «Алми», «Арвитфуд», «Евроопт», «Рублёвский», «Гиппо», у которых добавилось много новых магазинов. В этом году начали работать с сетями «Соседи», «Родная сторона», «Космофуд», «Март Инн Фуд».

**— Собираетесь ли открыть свой собственный книжный магазин?**

— О новом магазине в Минске пока не думаем, а в Могилёве успешно работает магазин «Буква».

**— Скоро Чемпионат мира по хоккею. Многие издательства готовят книжные новинки, посвящённые спорту. Собирается ли «Харвест» порадовать болельщиков, туристов?**

— В издательстве готовится энциклопедия «Хоккей». Это будет объёмное, крупноформатное издание, в котором представим практически всё, что касается мирового хоккея: его историю, важнейшие международные турниры, ведущие клубы и, конечно же, выдающихся мастеров, прославивших этот вид спорта. И всё это будет сопровождаться огромнейшим количеством иллюстраций.

**— Ваше издательство очень активно работает с белорусскими авторами и Союзом писателей Беларуси. Какие новинки отечественных мастеров слова вы отметили бы как самые яркие?**

— Сотрудничество с Союзом писателей Беларуси, может, не слишком активно, но продолжается. Вышли в свет книги «Сёмае неба» Ивана Стодольника, «Бедная-богатая Валентина…» Ирины Шатырёнок, «Северный гром» Ивана Переверзина. Находится в печати новая детская серия книг СПБ. Их написали уже известные авторы: Зинаида Дудюк, Наталия Новаш, Владимир Куличенко, а также молодой автор Екатерина Хадасевич-Лисовая. Готовим книги молодых авторов-фантастов, победивших в различных конкурсах по своей тематике. Продолжаем работать с нашим белорусским автором Вячеславом Бондаренко — скоро выйдет его новая книга «Самый долгий день». Те, кто интересуется историей нашей страны, по достоинству оценят книгу Виктора Ляхора «Военная символика белорусов», которая уже находится в печати.

**— Приближается XXI Минская международная книжная выставка-ярмарка. Какие издания представите на стенде?**

— Конечно, новинку — «Минск», много детских проектов, классику, романы, публицистику, книги об истории Беларуси, подарочные издания, альбомы, кулинарию — в целом, самый широкий спектр книг. Издательствам «АСТ» и «Харвест» всегда найдётся что показать читателю.

**Марина ВЕСЕЛУХА**

# Ваш…




Цудоўным падарункам для ўсіх гасцей сталіцы (памятаем пра Год гасціннасці!), у тым ліку і да мінскага свята кнігі, стане шыкоўнае выданне, выпушчанае ААТ«Харвест», — «Мінск».

Так, простая назва. Але ў ёй, як і ў самім горадзе, кожны пачуе СВОЙ водгук. Грукат конкі па мінскім бруку, галасы Купалы і Коласа, музыку фантанаў у скверах, песню званоў па-над сучаснымі праспектамі... Аўтар Ірына Шэбушава імкнецца для кожнага чытача адкрыць тыя мінскія адметнасці, што менавіта яму прыйдуцца даспадобы: аматарам гісторыі будзе цікава даведацца штосьці новае пра Траецкае прадмесце, Гасціны двор, вуліцу Рэвалюцыйную або манастыр базыльянак; турыстам старонкі выдання распавядуць пра сталічныя вакзалы да гасцініцы; рамантыкаў, душа якіх прагне адпачынку на вольным паветры, яны запросяць у вандроўку па сталічных парках, на «Белую дачу» — гарадскую сядзібу ў Курасоўшчыну, што з'яўляецца помнікам сядзібна-паркавай архітэктуры XIX стагоддзя, або ў Музей камянёў (паводле аўтара, адзін з самых загадкавых паркаў Еўропы, дзе на плошчы каля 6 гектараў старажытнымі валунамі выкладзена... карта Беларусі).

Дарэчы, музеі! Пра іх таксама расказвае гэты незвычайны альбом. І не толькі расказвае, але і паказвае, як выглядаюць установы (але ж мы здагадваемся, што самае цікавае — унутры!). Тут жа падаюцца і гістарычныя факты пра іх. Выданне з дакладнасцю дасведчанага экскурсавода расстаўляе прыярытэты: побач з кінатэатрамі, мастацкімі галерэямі ды тэатрамі — спартыўныя ўстановы: стадыён «Дынама», Футбольны манеж, Палац воднага спорту, «Мінск-арэна» ды іншыя месцы, дзе можна паклапаціцца не толькі пра здаровы дух, але і пра здаровае цела. Асобны раздзел у кнізе прысвечаны штогадовым спартыўным мерапрыемствам, фестывалям і выстаўкам. Асабліва прыемна, што ёсць тут і расповед пра Кніжную выстаўку-кірмаш. А таксама — пра хакейны турнір «Залатая шайба», футбольны турнір «Скураны мяч», фолк-фестываль «Камяніца», Міжнародны фестываль агню, кінафестываль «Лістапад» і г. д.

Не забылася аўтар выдання і пра закаханых. Гэта ім прысвечаны раздзел «Плошчы, скверы, фантаны — месцы, дзе прызначаюць спатканні». Тут вельмі дарэчы фотаздымкі — як іначай пазнаць тое месца на ўзбярэжжы Свіслачы, дзе вас чакае каханы або каханая (лепш, канечне, калі пры гэтым у вас у руках будзе кніга «Мінск». Тады сустрэчу сапраўды не адменіць ніякая непрыемная нечаканасць-ванка!). А спаткацца ў беларускай сталіцы ёсць багата дзе: каля знака «Пачатак дарог Беларусі», фантана «Юнацтва» (для тых, каму за...) ці нават на канале ў раёне вуліцы Філімонава (праўда, лепш спачатку ўпэўніцца, ці ўмее вашая любая плаваць, бо каханне і хараство мясцовых краявідаў могуць і галаву закружыць!).

Пасля сустрэчы — шлях у месцы адпачынку, у тым ліку і разам з дзецьмі. Вас чакаюць Беларускі дзяржаўны цырк, Мінскі заапарк, Цэнтр акіянаграфіі «Адкрыты акіян» (вы чулі пра такі?) і многія іншыя месцы, дзе можна з прыемнасцю прабавіць час у любую пару года.

Аднак госці наведваюць Мінск не толькі дзеля адпачынку! Для абітурыентаў — шырокі выбар вышэйшых навучальных устаноў, для аматараў шопінгу — спіс найбуйнейшых гандлёвых цэнтраў і крам. Дапаможа выданне і тым, хто збіраецца ў сталіцу, каб папрацаваць з кнігамі. Да слова, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі іх захоўваецца больш як 8 мільёнаў. Акрамя таго, у кніжніцы — 70 000 рэдкіх выданняў і стадрукаў, самыя раннія з якіх датуюцца XIV стагоддзем. Фонды перыёдыкі прадстаўлены звыш як 3 мільёнамі часопісаў і газет XX і XXI. Дарэчы, «ЛіМ» там таксама ёсць!

Пра высокае нагадаюць і старонкі кнігі, прысвечаныя рэлігійным святыням. І зноў-такі — кожны знойдзе сваё: храм, царкву, касцёл, сінагогу... Галоўнае, каб вы прыехалі ў Мінск. А далей аднайменнае выданне правядзе вас па вуліцах сталіцы лепш за любы навігатар!

Нават калі вы нарадзіліся і ўсё жыццё пражылі тут, кніга «Мінск» дапаможа вам разамкнуць кола «домкрама-праца», выйсці ў горад і адчуць, які ён... Ваш!

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# «Залаты фаліянт» — для лепшых

**У першы дзень працы XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбудзецца ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў 53-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі». Гэтае творчае спаборніцтва, па сутнасці, падводзіць вынікі работы беларускіх выдаўцоў, ілюстратараў, дызайнераў за папярэдні год. Сёлета ў конкурсе ўзяло ўдзел 31 выдавецтва, прадставіўшы на суд мастацка-экспертнай камісіі і журы 134 выданні павышанай якасці.**

Мэта конкурсу «Мастацтва кнігі» — вызначэнне найлепшых выдавецкіх праектаў, якія сталі сапраўднымі падзеямі ў нацыянальным кнігавыданні, павышэнне мастацкай і паліграфічнай культуры беларускай кнігі, далейшае развіццё кніжнага мастацтва, папулярызацыя дасягненняў выдаўцоў.

З 2012 года творчае спаборніцтва праходзіць у два этапы. Спачатку прадстаўленыя на конкурс выданні разглядаюцца мастацка-экспертнай камісіяй. У яе склад уваходзяць вядомыя знаўцы справы, мастакі і дызайнеры кнігі Валянцін Губараў, Тамара Мельянец, Алена Жданоўская, Аляксандр Шупляцоў, Зміцер Герасімовіч, выдатны фотамастак, выдавец Дзяніс Раманюк. Узначальвае гэтую высокапрафесійную групу кансультант упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі краіны, сябар савета Беларускага саюза дызайнераў Валерый Рагалевіч. У першы дзень конкурсу, калі працуе мастацка-экспертная камісія, адбываецца фарміраванне шорт-ліста.

На наступны дзень праходзіць пасяджэнне журы, якое з ліку ўжо абраных камісіяй праектаў вызначае пераможцаў у кожнай з намінацый. У склад журы ўваходзяць вядомыя ў краіне дзеячы навукі і культуры, кіраўнікі Міністэрства інфармацыі краіны і творчых саюзаў: рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна (старшыня журы), першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч (сустаршыня журы), дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, старшыня Беларускага саюза дызайнераў Дзмітрый Сурскі, дырэктар выдавецтва «Кавалер» Канстанцін Хацяноўскі, мастак-графік, дызайнер Уладзімір Цэслер, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.



Па традыцыі падчас конкурсу «Мастацтва кнігі» вызначаюцца пераможцы ў тэматычных, спецыяльных і персанальных намінацыях. Вось і сёлета будуць названыя лепшыя кнігі 2013 года ў наступных катэгорыях: «ЛІТ-фармат» (выданні літаратурна-мастацкага кірунку), «Разам з кнігай мы расцём» (праекты для дзяцей і падлеткаў), «Фотапогляд» (фотаальбомы, фотакнігі), «Падручнік новага веку» (выданні вучэбнага кірунку), «Залатыя скрыжалі» (даведнікі і энцыклапедыі), «АРТ-кніга» (альбомы па выяўленчым мастацтве, факсімільныя, рэпрынтныя праекты, бібліяфільскія выданні), «Эўрыка» (навуковыя, навукова-папулярныя кнігі), «Духоўнасць» (праекты духоўна-асветніцкага характару). Журы назаве лепшага ілюстратара, дызайнера і фотамастака кнігі за 2013 год, а таксама ўзнагародзіць пераможцаў у спецыяльных намінацыях «За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны», «Садружнасць». Адметна, што сёлета ў конкурсе з'явілася новая спецыяльная намінацыя «У люстэрку часу», у межах якой будуць адзначаныя заказныя выдавецкія праекты.

Сёлета прадоўжыцца яшчэ адна вельмі добрая традыцыя: дыпломамі пераможцаў і лаўрэатаў у намінацыях будуць узнагароджаны ў некаторых выпадках не толькі выдавецтвы, але і асобы, якія адыгралі важную ролю ў распрацоўцы ідэі і рэалізацыі праекта.

Натуральна, арганізатары конкурсу і сябры журы пакуль захоўваюць інтрыгу, не называюць пераможцаў у намінацыях, а таксама ўладальніка вышэйшай узнагароды конкурсу — гран-пры ў намінацыі «Трыумф» і вялікага Ганаровага знака-сімвала «Залаты фаліянт». Адзначаючы толькі, што на галоўную ўзнагароду сёлета прэтэндавала адразу некалькі праектаў ад выдавецтваў «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», «Беларусь», «Мастацкая літаратура», Выдавецкага дома «Звязда», Выдавецтва Беларускага Экзархата.

— Беларускія кнігавыдаўцы, як заўсёды, імкнуцца трымаць марку, — падсумоўвае свае ўражанні ад конкурсу Валерый Рагалевіч. — Мы разумеем, што супрацьстаяць лічбавым фарматам, электроннай кнізе могуць толькі высакаякасныя выдавецкія прадукты. Гэта кнігі, у якіх бездакорны макет, арыгінальныя ілюстрацыі. Але я ўпэўнены, што прэстыжныя, падарункавыя кнігі ўсіх кірункаў, складанаструктурныя выданні, якія самі па сабе ўжо з'яўляюцца культурнай акцыяй, заўсёды будуць актуальныя. Рыхтаваць менавіта такія праекты — наша задача.

І праца айчыннай сістэмы кнігавыдання пацвярджае паспяховае выкананне гэтай задачы. Больш за тое, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, яго цэнтральны апарат, выдавецтвы, паліграфічныя прадпрыемствы па-ранейшаму надаюць важнае значэнне афармленню, канструяванню кнігі, яе мастацкай структуры і вобразнасці, эмацыянальнасці, а таксама якасці паліграфічнага выканання. Гэта пацвярджае высокі ўзровень выканання праектаў-пераможцаў Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі», а таксама тое, што і па выніках Міжнародных конкурсаў «Мастацтва кнігі» краін-удзельніц СНД Беларусь традыцыйна знаходзіцца сярод лідараў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Мастак і кніга*

# …І туфлі правільнага колеру

**Работы расійскага мастака, кніжнага графіка Андрэя Фераза, думаю, бачыў кожны з вас. А выданні, над афармленнем якіх ён працаваў, у многіх нават ёсць у хатняй бібліятэцы. Назаву толькі некаторыя з іх. Рускамоўныя пераклады асобных раманаў Стывена Кінга, Ніла Геймана, Уілбурга Сміта, Карласа Руіса Сафона, Анджэя Сапкоўскага, Джэральдзіны Брукс, кніг Джоан Роўлінг пра Гары Потэра, а таксама творы Марты Кетро, Андрэя Рубанава… Пагадзіцеся, ужо пры згадцы гэтых імёнаў і выданняў у памяці ўсплывае незвычайны, яркі і адметны стыль афармлення. Пра асаблівасці супрацы мастака і буйнога выдавецтва, мару аформіць пяцівугольную кнігу і любімыя літаратурныя творы наша гутарка з вядучым мастаком «АСТ» Андрэем Феразам.**



*Андрэй Фераз.*

**— Андрэй, у які момант вы зразумелі, што хочаце стаць мастаком і працаваць менавіта з кнігамі?**

— Мастаком я хацеў быць столькі, колькі сябе памятаю. Маляваў заўсёды і паўсюль, таму нейкія альтэрнатывы галоўнага занятку жыцця нават не разглядаліся. Што да кніжных ілюстрацый, то тут вялікую ролю адыграў шчаслівы выпадак. Спадарожным ветрам мяне калісьці занесла ў выдавецтва «Махаон», дзе ўсё і пачалося. Тады ў мяне было мала досведу і шмат энтузіязму. У гэтым выдавецтве ў мяне паверылі, за што я ім вельмі ўдзячны.

**— Вы часта малюеце вокладкі для перакладных кніг, ужо знакамітых раманаў. Улічваеце іх арыгінальнае афармленне?**

— Звычайна не. Стараюся зрабіць нешта ўнікальнае. Часам (але насамрэч не вельмі часта) выдаўцы хочуць, каб іх вокладкі былі ў заходнім стылі. Так было з падарункавым выданнем кніг пра Гары Потэра, якое я рабіў для кампаніі «Росмэн».

**— Ці адрозніваецца падыход да афармлення ў расійскіх і замежных выдавецтвах?**

— Пакуль не магу пахваліцца шырокім досведам супрацоўніцтва з замежнымі выдаўцамі. Таму выкажуся з пункту гледжання назіральніка. Еўрапейскія вокладкі мне падаюцца вельмі якаснымі і вельмі… сумнымі.

**— Для якога пісьменніка вам больш падабаецца ствараць вокладкі?**

— Гэта той творца, для якога раблю ілюстрацыю ў дадзены момант. Зараз — Стывен Кінг. Афармляю цыкл яго раманаў «Цёмная вежа».



*Ілюстрацыя да выдання «Людзі кнігі» Джэральдзіны Брукс.*

**— Вы любіце чытаць? Да якога з любімых твораў вы вельмі хацелі б намаляваць вокладку?**

— Рэдка даводзіцца чытаць кнігі, якія не патрэбна афармляць. Проста не хапае на гэта часу. На шчасце, нярэдка для працы да мяне трапляюць сапраўды выдатныя кнігі. З нядаўніх — «Вязень неба» Карласа Руіса Сафона, «Цёмная вежа» Кінга. Выдатна было б калі-небудзь зрабіць вокладкі для кніг Марыны і Сяргея Дзячэнка.

**— Ведаю, што вы марыце калі-небудзь аформіць пяцівугольную кнігу, а выдаўцы не пагаджаюцца на такі варыянт. Як думаеце, чаму?**

— Таму што ім лянота тэлефанаваць у тыпаграфію і прасіць зрабіць кашторыс такога заказу. Намнога прасцей працягваць рабіць чатырохвугольныя, у сумным фармаце 84х108\32. Але насамрэч у аснове зразумелы страх не прадаць тыраж. У сучасных умовах, калі рынак звужаецца, выдаўцы стараюцца дзейнічаць як мага больш асцярожна.

**— Вы чытаеце тэксты, над афармленнем якіх працуеце?**

— Калі ёсць магчымасць, заўсёды. Бывае, вакол праекта такая канспірацыя, што мастаку даваляюць толькі адну главу прачытаць ці нават самому даводзіцца прыдумваць сюжэт для малюнка.

**— Ці мусілі калі-небудзь усё перарабляць толькі таму, што аўтару не падабалася?**

— З расійскімі пісьменнікамі вокладкі да іх твораў, як правіла, узгадняюцца. Часам мы нават прыдумваем іх разам. Бываюць баталіі, бывае каханне з першага позірку. Былі і аўтары — але іх адзінкі, — з якімі мы катэгарычна не спрацаваліся. Невялікія дэталі даводзіцца дапрацоўваць амаль заўсёды. Туфлі на гераіні былі не такога колеру, цмок не так дыхае ці газагенератарны рухавік надта падобны да бочкі.

**— Чые работы вам прыемна разглядаць, магчыма, пераймаць нейкія прыёмы?**

— Люблю стыль бельгійскага сюррэаліста Рэнэ Магрыта, творчасць аўстрыйскага мастака Густава Клімта і творы французa Энкі Білала.

**— Вы знаёмыя з беларускімі калегамі?**

— Пакуль не, але буду рады пазнаёміцца, калі надарыцца такая магчымасць. Аднак хачу падкрэсліць, што вельмі люблю карціны беларускага мастака Міхаіла Савіцкага.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



# Карціны з аблокаў ды гутарка з мядзведзямі




**Кніга «Як мурлыку ашукалі» серыі «Казачны куфэрак», якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», — частка творчага праекта «Пісьменнікі — дзецям», арганізаванага сумесна з Міністэрствам інфармацыі Беларусі. Зборнік нагадвае чароўны цыліндр фокусніка, адкуль кожны маленькі чытач можа лёгка выцягнуць «за вушы» патрэбную казку.**



Творы для дзяцей, сабраныя ў кнізе, належаць сучасным беларускім аўтарам, таму ў іх асаблівая мэта — прывучаць хлопчыкаў і дзяўчынак да роднай мовы. Аўтары зборніка — Генадзь Аўласенка, Раіса Баравікова, Анатоль Бензярук, Расціслаў Бензярук, Анатоль Бутэвіч, Віктар Гардзей, Анатоль Зэкаў, Алесь Карлюкевіч, Уладзімір Мазго, Міхась Пазнякоў, Павел Саковіч, Галіна Пшонік. А казкі самыя розныя — празаічныя ці вершаваныя, пра жывёл, з'явы прыроды, людзей, але аб'ядноўвае іх моцная вера ў перамогу Добрага над Злым, мудрасці над глупствам. Гартаючы старонкі, можна пагуляць па лесе, дзе восень разліла свае фарбы, пазнаёміцца з гаспадыняй Вавёрачкай і абібокам Мядзведзем — ці патрапіць у гісторыю, праплыць паўакіяна, даведацца, хто скраў фарбы, а потым пасябраваць з Ветрам, які малюе на аблоках. Немагчыма толькі... засумаваць.

Першая ў чарадзе казак — гісторыя Генадзя Аўласенкі пра Мядзведзя і раўчукі. Паэт, драматург, пісьменнік, за плячыма якога амаль 20 гадоў настаўніцкай працы, сцвярджае: злосць лёгка ператвараецца ў дабрыню.

Лясны волат, які бестурботна спаў у цёплым берлагу і бачыў малінавыя сны, не заўважыў, што прыйшла вясна. Пакрыўджаны раўчукамі, што пабудзілі яго, Мішка выходзіць са сваёй схованкі, прагнучы помсты, але... «Сонейка зверху свеціць ласкава, сінічкі песнямі вясёлымі вясну вітаюць, ад пралесак блакітных ажно зямлі не відаць...» Мараль: хараство прыроды, якое людзі часам не заўважаюць, вылечвае самыя цяжкія хваробы душы.

Генадзь Аўласенка не з тых аўтараў, якія з кожнай старонкі паўтараюць: трэба рабіць так, а не інакш. Ён толькі падказвае, наводзіць на думкі, а дзеці ўжо робяць высновы самі.

Прызнаны майстра літаратуры для маленькіх Раіса Баравікова прапаноўвае чытачам пазнаёміцца з катом Хвядосам, філосафам і летуценнікам, а потым — зазірнуць у госці да Чараўніка па мянушцы Магу Тое, На Што Здатны і яго прыгожых дачок Бімбок і Глеі. Сястрынскі канфлікт пераўтвараецца ў амаль шэкспіраўскае пытанне: ці можна пашыць сукенку з месяцовага святла і рачной хвалі? Высвятляецца, што ўсё ж такі нельга, але перамагае справядлівасць: як чалавек сябе паводзіць, тое ён і атрымлівае. «Усялякія войны, нават самыя кароткія, пачынаюцца тады, калі чалавечае сэрца пакідае любоў», — даводзіць аўтарка.



Кацiная філасофія ў казцы Р. Баравіковай параўноўваецца з чалавечай. Словы ката Хвядоса іранічныя, з рамантычным адценнем: «Гэта ж так цікава глядзець на сонца, якое ператвараецца ў агромністы ружовы шар на захадзе і думаць… думаць… думаць!» Хвастаты аматар прыгожых слоў, у адрозненне ад свайго рудога сябра, не ўмее нават паляваць на мышэй! Так і ў жыцці: адзін ляжыць, нічога не робіць, шмат разважае і лічыць сябе разумным, а другі працуе і выжывае ў несправядлівым свеце. Дзецям, канечне, пра гэта ведаць яшчэ рана, але падсвядома яны зробяць высновы, якія спатрэбяцца ў будучыні.

Пісьменніца не прэтэндуе на абсалютную ісціну, а дзеліцца назіраннямі, прапускае праз сябе кожнае слова і толькі потым прапануе дзецям.

Анатоль Бензярук, пісьменнік, журналіст і краязнаўца, не адыходзіць ад фальклорна-традыцыйнага павучальнага лейтматыву казак, што відаць ужо па назве яго твора: «Гультай і Лянотка». Героі толькі і робяць, што боршч лыжкамі сёрбаюць ды каўбасы ўмінаюць, між тым як чытачы атрымліваюць асалоду ад добрага гумару пісьменніка. Выснова ў яго надзвычай актуальная: «Галодная гэта справа — ленавацца».

Віктар Гардзей, майстар пейзажна-філасофскай лірыкі, перакладчык, стварыў шмат вершаваных і празаічных твораў для дзяцей. На жаль, толькі два з іх уключаны ў зборнік — «Пан і Абжора» ды «Як мурлыку ашукалі». Уражваюць рытміка і мелодыка, па-народнаму ясныя, яркія і дакладныя тропы. У выніку казкі нагадваюць байкі, дзе кожны адшукае сваю мудрасць.

Калі вершы пра Ката-марахода Уладзіміра Мазго і казка пра трох матылькоў Міхася Пазнякова прыдатныя для тых, хто толькі спасцігае навуку слоў, то Галіна Пшонік зацікавіць чытачоў малодшага школьнага ўзросту. У гэты час якраз сур'ёзна задумваюцца над тым, як будаваць адносіны з сябрамі. Выразнай мяжы паміж рэальным і казачным жыццём у яе няма. Героі — звычайныя дзеці, якія жывуць у горадзе, але трапляюць часам у абсалютна незвычайныя, нават чарадзейныя абставіны. Выпрабаванні дапамагаюць ім змяніцца — раўнадушныя становяцца чулымі, а грубіяны вучацца ветлівасці. Дзяўчынка з "Чароўнага калейдаскопа" лічыла, што давяраць людзям — глупства, таму рабіла шэрым усё, да чаго дакраналася, і сама бачыла свет чорна-белым. На шчасце, яна зразумела: дрэнных людзей не бывае, у кожным ёсць нешта добрае.

Кніга «Як мурлыку ашукалі» дапаможа лепш зразумець не толькі сябе, але і тых, хто навокал.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**малюнкі Марыі КАРАТАЕВАЙ**



# Вылечыць душу

**Кніга «Добрыя лекі» серыі «Казачны свет», якую выпусціла выдавецтва «Мастацкая літаратура», знаёміць чытачоў з народнымі казкамі, створанымі на берагах Балтыйскага мора, у краіне-суседцы Беларусі — Латвіі. Яе жыхары — старажытны і культурна багаты этнас, у менталітэце якога закладзеныя любоў да працы, павага да зямлі, сумленне, адкрытасць, спакой і цярпенне. Казкі, залацінкі мудрасці народа, прайшлі праз пакаленні і надзвычай актуальна гучаць сёння. Выданне з'явілася дзякуючы двум добрым і таленавітым людзям: перакладчыку Пятру Масальскаму і ўкладальніку выдання Сяргею Панізніку.**




Разгарнуўшы кнігу, чытач знаёміцца з сынам рыбака Адзінцом ды трапляе разам з ім у палон да Велікана... Сяляне тым часам аддана працуюць і змагаюцца з няздарамі-нячысцікамі ды зайздроснымі, сквапнымі панамі. Аднак цуды чакаюць паўсюль: бохан хлеба вылечвае ляноту, з куфэрачка паўстае шыкоўны палац, а за Чорным морам «жывуць» восем паўлінавых пёраў. Побач з чараўніцтвам сустракаюцца і звычайныя жыццёвыя парады. Напрыклад, не трэба быць скнарам, бо застанешся без грошай, а добры чалавек заўсёды знойдзе шчасце, як бы цяжка ні было.

Перакладчык казак Пятро Масальскі (псеўданім — Пятро Сакол) — паэт і фалькларыст. Ён нарадзіўся ў 1905 годзе ў мястэчку Пасінь, на той час — у Віцебскай губерні. Навучэнец Люцынскай беларускай гімназіі ўжо ў юнацтве пісаў: «Я вольны сын неба! Сакол я свабодны! Мне цяжкіх жалезных ланцугаў не трэба». Не дзіва, што адважны хлопец пачаў спрабаваць свае сілы ў літаратуры, калі яму споўнілася 15 гадоў. Спачатку захапіўся паэзіяй, потым — перакладамі, у тым ліку латышскіх песень-дайнаў і казак. На жаль, у 1994 годзе ў зборнік «Латышскія народныя казкі» трапіла толькі пяць яго перакладаў. Затое цяпер, паводле Сяргея Панізніка, надышоў час вярнуць і нагадаць людзям імя беларускага творцы, народжанага па-за абсягам краіны, але адданага ёй. У вершах Пятро Сакол аддаваў перавагу гістарычнай мінуўшчыне, нацыянальнаму самаўсведамленню, няпростаму лёсу сялян. Ён імкнуўся да лепшай долі, да свабоды, змагаўся з пасіўнасцю і пакорлівасцю. Уласнае жыццё, надта няпростае, адбівалася і на паэзіі. Першы зборнік пабачыў свет у Рызе пад назвай «На світанні». Застаўся няскончаным яго беларуска-латышскі слоўнік, складанне якога пачалося ў 1940-я гады.

Амаль 30 гадоў таму ў лісце ў выдавецтва «Юнацтва» Пятро Масальскі пісаў, што сярод латышскіх казак шмат запазычанняў з рускага і беларускага фальклору. Гэты факт — яшчэ адно сведчанне таго, што нашы народы вельмі блізкія, паяднаныя агульнымі каранямі. Пятро Масальскі працаваў над перакладамі ў даволі сталым узросце, калі і сэрца нагадвала пра сябе, і ногі адмаўляліся трымаць. Але ж справу сваю ён дарабіў! Яшчэ і жартаваў у лісце, называў сябе старым летуценнікам і казаў: «Цікава мне, як будуць у выдавецтве лаяць мае пераклады: на роднай мове ці па-руску?» Але ж лаяць не патрэбна, можна толькі чытаць і захапляцца.

Цёплыя, у мяккіх, але яркіх адценнях ілюстрацыі мастачкі Марыі Каратаевай увасабляюць надзвычай харызматычныя вобразы і надаюць кнізе асаблівае адценне. Вось суровы Велікан схіліўся над хлопчыкам, а той баязліва сядзіць на камяністай гары, прычым так высока, што амаль сягае галавой да аблокаў. Праз некалькі старонак з'яўляецца прынцэса з доўгімі чорнымі валасамі. Прыгажуня спіць на ружовай пярыне, за вокнамі яе пакоя — чароўны сад, дзе пасвіцца аднарог, а побач з ложкам — экзатычны птах у блакітным пер'і. Персанажаў шмат, і ўсе яны вельмі запамінальныя!

Прывабнае выданне вылечвае душу лепш за дактароў, дорачы светлы настрой і надзею на лепшае, бо ў кожнай казкі — шчаслівы, а галоўнае, справядлівы канец!

**Марыя ВАЛКОВІЧ**

# Пісьменнік, мецэнат, грамадзянін

**...Гісторык, прадпрымальнік, грамадскі дзеяч, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» (2013) — усё гэта адзін чалавек, Анатоль Васільевіч Статкевіч-Чабаганаў. На мінулай ММКВК была шырока прэзентаваная чатырохтомная серыя яго гісторыка-дакументальных кніг «Я — сын Ваш», адзначаная дыпломам I ступені Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» ў намінацыі «Духоўнасць».**



Фота Кастуся Дробава

Цікава, што заслужаны і прызнаны пісьменнік-гісторык не атрымаў спецыяльнай адукацыі. Праўда, вучыўся шмат. Скончыў Ленінградскі інстытут дакладнай механікі і оптыкі, Вышэйшую школу кіравання пры АПК СССР, Школу эканомікі і англійскай мовы (Вялікабрытанія). Ствараючы фундаментальную кнігу «Я — сын Ваш», прасочваючы свой радавод ад 1320 г. і натуральна закранаючы гісторыі іншых шляхецкіх родаў (больш як сарака), кансультаваўся з прафесійнымі гісторыкамі, архівістамі, даследчыкамі генеалогіі і г. д. Актыўна супрацоўнічае з Беларускай праваслаўнай царквой, дапамагае аднаўляць храмы.

Дзейнасць Анатоля Статкевіча-Чабаганава нагадвае справы славутых дзеячаў мінуўшчыны, якія таксама не абмяжоўваліся кампетэнцыяй у адной галіне. Гутарка з універсальнай асобай і мецэнатам нашых дзён — выдатны ўрок цікавасці да свету і людзей.

**— Анатоль Васільевіч, хто ваша чытацкая аўдыторыя?**

— Гэта людзі, якія цікавяцца нашай гісторыяй і культурай, а таксама, спецыялісты, вучоныя-гісторыкі. Цікавіць яна і настаўнікаў, а праз іх — дзяцей. Дарэчы, у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» выходзіць кніга «Лёс роду, лёс Радзімы», рэкамендаваная для старэйшага школьнага ўзросту.

**— Калі вы пачалі займацца даследчыцкай дзейнасцю?**

— У 1989 годзе, калі прыйшлі паперы аб рэабілітацыі рэпрэсіраваных у 1930 г. сваякоў, я пачаў працу ў архівах КДБ, каб дазнацца як мага больш пра іх лёс. Праз гэты пошук зацікавіўся і лёсамі іншых людзей. Таму падумаў, што вынікі ўрэшце будуць карыснымі не толькі для мяне і для маёй сям'і.

**— Напэўна, тады і ўзнікла мэта паказаць гісторыю Айчыны праз гісторыю ўласнага роду?**

— Так, мэта выспела паступова. Па-першае, я зразумеў, што Айчына для чалавека — не проста яго краіна, але эпоха, у якую ён жыве. Па-другое, лічу, што гісторыя павінна захоўвацца менавіта праз чалавека, яго памяць пра продкаў. Для гісторыі значны кожны лёс, асабліва лёс «маленькага чалавека». Пра вялікіх і знакамітых пішуць шмат. Але ж гісторыя — сукупнасць лёсаў, і таму — сукупная памяць.

Пасля шматгадовай працы з пісьмовымі крыніцамі — сведчаннямі, дакументамі — цяпер мяне больш за ўсё цікавяць непасрэдныя, жывыя ўспаміны простых людзей.

**— Гэта наступны этап творчай дзейнасці?**

— Менавіта так.

**— Як прызнанага даследчыка і пісьменніка вас, напэўна, запрашаюць на сустрэчы з моладдзю?**

— Часта сустракаюся з маімі землякамі на Любаншчыне і, канечне, са школьнікамі. Яны звычайна пытаюцца: «Як вывучыць свой род, з чаго трэба пачынаць?» Адказваю, што перш за ўсё варта распытаць пра мінулае бабулю, дзеда, паглядзець уважліва сямейныя фота, асабліва выявы часоў вайны... А ўвогуле, трэба ўсведамляць, што кожны мінулы год — ужо гісторыя.

**— У якой ступені вы лічыце спраўджанай вашу місію летапісца?**

— Галоўнае — даць прыклад. Я зацікаўлены ў тым, каб гэты прыклад скарыстала як мага больш людзей, таму фінансую адпаведныя выданні ў заснаванай мной серыі.

**Гутарыла Таццяна СТУДЗЕНКА**




# «Ёсць яшчэ апраўданне…»

## НАТАТКІ ВЫДАЎЦА НАПЯРЭДАДНІ XXI МІНСКАЙ МІЖНАРОДНАЙ КНІЖНАЙ ВЫСТАЎКІ-КІРМАШУ

Усё далей і далей адыходзіць у гісторыю Вялікая Айчынная вайна. З цягам часу зусім мала застаецца на нашай зямлі ўдзельнікаў і сведак тых трагічных і гераічных падзей. Святая справа — штодзённая ўвага да іх, і ў нашай дзяржаве прыкладаюцца ўсе намаганні, каб ветэраны не адчувалі сябе пакінутымі і забытымі. Вось і новая ўзнагарода нядаўна зацверджана — Ганаровы ордэн «70 гадоў Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг.».

Але самае каштоўнае праяўленне любові і ўдзячнасці з нашага боку — захаванне памяці. І асобнае месца ў гэтай працы займае, канечне, Кніга. Менавіта яна можа і павінна ўвабраць у сябе і ўспаміны, і сённяшні боль чалавека, які спазнаў тую вайну. Гістарычная роля кнігі ў тым, каб, расказваючы праўду, пакідаючы новыя звесткі пра загінуўшых і жывых, стаць помнікам мужнасці і гераізму.

*«Голас праўды, як памяць, нятленны,*
*Ён Хатынямі*
*Свету баліць.*
*Дзякуй кнігам, што вучаць сумленна*
*Гэту праўду*
*Цаніць і любіць…»*

Словы гэтыя ўзятыя з новай кнігі Міколы Чарняўскага «На плошчы памяці маёй», якая толькі што выйшла з друку ў серыі «Дзеці вайны». Першынцам серыі, заснаванай выдавецтвам «Чатыры чвэрці» яшчэ напярэдадні 65-годдзя Вялікай Перамогі, стала кніга вядомага паэта Ізяслава Катлярова «В днях, к самозабвенью не готовых…». Сімвалічна, што яна пачыналася аўтарскай «Молитвой»:

*«Дай мне себе не солгать!*
*Если себе не солгу,*
*Может быть, правду сказать*
*Людям о людях смогу».*

І не лгаў, усхваляваны распавядаючы ў вершах пра галоднае ваеннае дзяцінства, бо выжыў тады дзякуючы людской дабрыні і спагадзе. Распавёў паэт і пра тых, хто крыўдзіў слабога, хто шкадаваў хлебнай скарынкі бяздомнаму, хто жыў «сыто, властно и спокойно».

*«Некрасивою правда была —*
*в ней слепила подвальная мгла,*
*ни картошины в ней, ни крупы…*
*Расползались по стенам клопы».*

Па сённяшні баліць яго душа, не адпускаюць цяжкія ўспаміны і хваляванне за будучыню:

*«В начале двадцать первого*
*столетья,*
*ещё не зная, мир или война, —*
*стою, смотрю, как звезды светят*
*и медленно темнеет тишина».*

Паміж першай і апошняй па часе кнігамі серыі «Дзеці вайны» — чатыры гады. Аўтарамі наступных былі як самі ўдзельнікі Вялікай Айчыннай, так і сучасныя літаратары. Аб'ядноўвала мэта серыі — выкласці на паперы прозай ці паэзіяй усё, што хвалявала, набалела, пакінуць для нашчадкаў памяць пра ваеннае ліхалецце.

І вось гэтыя кнігі стаяць на паліцы, бы салдаты. Сціплыя, невялікага фармату, але з густам аздобленыя рэпрадукцыямі карцін і плакатаў тых гадоў: «В днях, к самозабвенью не готовых…» Ізяслава Катлярова, «Цяжкая дарога» Васіля Гурскага, «Белли пуэри» Таццяны Дашкевіч і Сяргея Трахіменка, «Чорны год» Фелікса Баторына, «Узники «Лаудемюле», или 597 дней неволи» Валянціна Жукава, «Выжыць на дарозе смерці» Зінаіды Дудзюк, «Беражыце шыпшыну» Міколы Маляўкі, «Точка» Алены Падкацік, «На плошчы памяці маёй» Міколы Чарняўскага.

А на падыходзе — «Узаранае поле» Алеся Савіцкага, кніга Уладзіміра Карызны… Яшчэ многа задум. Але не! Гэта той выпадак, калі многа не будзе ніколі. Стваральнікі серыі ў выдавецтве ўпэўнена пацвярджаюць такое меркаванне мэтанакіраванай працай, бо, кажучы словамі Роберта Раждзественскага, «это нужно — не мёртвым! Это надо — живым!».

Звоняць званы — мы ўспамінаем загінуўшых і тых, хто вярнуўся з палёў бітвы і яшчэ сёння з намі… Добра памятаю, як мне самой заўсёды не хапала часу паслухаць бацьку. А яму так хацелася расказаць пра вайну. Быў ён танкістам, пасля ранення сустрэў перамогу ў партызанскім атрадзе імя К. Заслонава. Яму было што распавесці, але ж усе мы спяшаліся па «неадкладных» справах. Цяпер, канечне ж, паслухалі б… На жаль, спазніліся: бацька памёр у ноч з 8 на 9 мая — мабыць, ад хвалявання, бо заўсёды з нецярпеннем чакаў Дня Перамогі. Дык хай для ўсіх нас гучаць трывожным напамінам словы Міколы Маляўкі з кнігі «Беражыце шыпшыну»:

*«Мы ўсе за лёс Зямлі ў адказе,*
*Цяпер і потым, кожны міг,*
*І не павінна быць у часе*
*Разрыву — сувязь страцім мы…»*

Скажу шчыра, чакалі, што цікавасць чытачоў, а асабліва супрацоўнікаў бібліятэк, будзе такая, што давядзецца перавыдаваць, бо «пробны» тыраж — зусім маленькі, да 500 асобнікаў. Дык не. Быццам хапіла. А шкада, што выданні яшчэ не звярнулі на сябе патрэбнай увагі, што прайшлі непрыкметна, побач з іншымі, не трапіўшы нават у так званыя спісы сацыяльна значнай літаратуры.

Набліжаецца 70-я гадавіна Вялікай Перамогі, і мы з хваляваннем прыглядаемся, каб не прапусціць нешта значнае, бо, як сцвярджае знакамітае выслоўе, «scripta manent» — напісанае застаецца.

**Ліліяна АНЦУХ**

# Прадчуванне класікі



Незвычайным атрымаўся чарговы — апошні за мінулы год — нумар «Полымя». Не толькі таму, што пераважаюць публіцыстычныя матэрыялы. Галоўная нечаканасць — змест.

Нягледзячы на тое, што празаічны блок спраўджаны адно дзякуючы заключнай частцы рамана Зінаіды Дудзюк «Гонды», гэтая частка вартая самай пільнай увагі і найвышэйшай адзнакі. Няхай там ёсць хіба — пры эпічна нетаропкім руху твора пад канец ён ледзь не задыхаецца ў спешцы, — агульны ўзровень уражвае. Гэта эпас у класічным сэнсе: шырокафарматнае палатно гістарычна значных рэалій пры наяўнасці маральна-псіхалагічнай глыбіні іх інтэрпрэтацыі. Да таго ж твор бачыш і чуеш падчас чытання.

Што ж там гістарычна значнага, ці не ўпершыню закранутага на эпічным узроўні ў нашай літаратуры? Урбаністычны злом! Разумееш гэта, прачытаўшы дзве трэці звычайнага (калі б не адмысловая аўтарская інтанацыя) «сялянскага» тэксту. А потым думаеш: не толькі Піцер — усе гарады стаяць, напэўна, на касцях…

Паэзія ў «Полымі» амаль заўсёды замяшчае традыцыйнае «Слова рэдактара», і не толькі ў выпадку, калі друкуюцца вершы Міколы Мятліцкага. Паэтычныя падборкі адпавядаюць порам года, або святам, або значным нагодам. Пераважны настрой снежня — стрыманую тугу па адвечным, светлы сум, ціхую развагу — перадаюць вершы Віктара Шніпа.

Упэўненая, што нумар стане сапраўдным скарбам для выкладчыкаў беларускай літаратуры. Пасля «тонкага» намёку на класічны патэнцыял рамана Зінаіды Дудзюк нельга не сказаць тое ж самае пра як мінімум два публіцыстычныя матэрыялы. Першы — нататкі пра сучасную паэзію У. Гніламёдава. «Нататкі» пісьменніка-акадэміка, якія насамрэч — толькі частка цэлай кнігі, здольныя пераканаць у адваротным тых, хто кажа, быццам крытыкі ў нас няма.

«Нататкі» ўзорныя па шэрагу крытэрыяў літаратурнай крытыкі: змяшчаюць тэорыю літаратуры, вылучаюць асаблівасці сучаснай паэзіі на фоне фундаментальных рыс класічнай беларускай літаратуры; адзначаюць выбітныя і паказальныя імёны, творы і творчыя рысы шэрагу сучасных беларускіх паэтаў (пры гэтым аўтар не кажа, што яны лепшыя). Урэшце, тут шмат трапных заўваг («індывідуальны стыль — нібы пашпарт паэта»).

Зусім іншы артыкул Васіля Макарэвіча. Паэт піша пра паэта (Казіміра Камейшу), спасцігаючы самую сутнасць яго асобы і таленту, звязваючы іх з радзімай (прыпушчанскі край Налібокі), прыгодамі эпохі, асаблівасцямі ўзросту. Тое, што літаратуразнаўца назваў бы «перыядызацыяй творчасці», паэт-крытык успрымае прарастаннем у свеце праз Слова. Цікава, што і тут мы знойдзем вытанчанае разуменне ўласна феномена Паэзіі.

Выбітным публіцыстычным складнікам часопіса з'яўляецца справаздача з «круглага стала» да 70-годдзя вызвалення першых раёнаў Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў: падзея адбылася сумеснымі намаганнямі рэдакцыі «Полымя» і Інстытута гісторыі НАН Беларусі ў верасні мінулага года. Мэта ў гісторыкаў-навукоўцаў і гісторыкаў-літаратараў (тых, хто піша на ваенную тэму) аднолькавая: «Даследаванне гісторыі Вялікай Айчыннай вайны… адыход ад стэрэатыпаў, крытычнае, больш глыбокае асэнсаванне, здавалася б, добра вядомых падзей і фактаў на аснове выяўленых у апошнія гады, раней не апублікаваных дакументаў і матэрыялаў айчынных і замежных архіваў» (Вячаслаў Даніловіч, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі). Варта адзначыць, што менавіта такой мэце адпавядае нядаўна надрукаваны ў «Полымі» раман У. Гніламёдава «Ліхалецце» — там «адыходу ад стэрэатыпаў» акрамя найноўшых архіўных дакументаў спрые ўласная памяць пісьменніка.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Бездань і сонца над галавой



Часта лепшыя старонкі «Нёмана» — творы з рубрыкі «Сусветная літаратура». Але ў дванаццатым нумары найперш вылучаецца апавяданне «Каменный ребёнок» маладой рускамоўнай пісьменніцы Ірыны Батаковай.

Звычайна празаікі імкнуцца максімальна выказацца па актуальнай тэме, распрацаваць герояў, прыдумаць займальны сюжэт, раскрыць пэўную праблему і за гэтымі клопатамі забываюцца, што літаратура ў першую чаргу — мастацтва, мэта якога — зусім не шматслоўнасць, а яркая і лаканічная прэзентацыя важнай для аўтара ідэі. Мастацкі вобраз можа быць больш ёмістым, чым доўгая характарыстыка альбо бясконцы шэраг азначэнняў, але шукаюць яго далёка не ўсе. Можа, гэта і ёсць прыкмета таленту?

«В бытовке стоял запах проутюженного белья — не такой, как бывает в обжитом углу, а холодный, пустой, односложный...» — і гэтага дастаткова, каб уявіць атмасферу дзіцячага дома, дзе знаходзіцца гераіня апавядання.

«Бывает так, что он (ребёнок. — **А. Л.**) не разлагается там, а как-то каменеет, а женщина даже не в курсе, что беременная… <…> Есть даже такой термин: "каменный ребёнок"», — менавіта «каменнымі дзецьмі» адчуваюць сябе насельнікі дзетдома: яны нікому не патрэбныя, іх ніхто не чакае, але яны працягваюць існаваць, хоць і не могуць развівацца нармальна.

«Теперь я понимаю, чего я не успела и не сделала. Я не сделала ничего хорошего. Ни для кого из них. Я никому не помогла. Ни одному человеку. Но как помочь? Как?» — похапкам разважае гераіня ў перадсмяротным стане. Гэта чалавек, засяроджаны на сваіх думках і перажываннях, які крытычна ацэньвае іншых і ставіцца да іх недаверліва — як да чужых. Тыповы партрэт сучаснага літаратурнага героя — і таму безумоўна значным падаецца апошняе прасвятленне дзяўчыны.

У тэксце выразна супрацьпастаўляюцца ўнутранае і дыялагічнае маўленне гераіні. Мысліць яна глыбока і ярка, але размаўляе з навакольнымі на грубаватым слэнгу, які надае ўпэўненасці і падкрэслівае незалежнае стаўленне да прадмета размовы. Мова паўстае як сродак сацыяльнай мімікрыі: гераіня не хоча адрозніваццa ад іншых, яна магла б быць добразычлівай і мяккай, але востра перажывае сваю крыўду, адзіноту і непатрэбнасць. Не толькі стыль і мова, але і кампазіцыя, агульная задума твора прадуманыя маладой аўтаркай. Апавяданне, па-першае, запамінальнае і, па-другое, карыснае для тых, хто сочыць за развіццём беларускай літаратуры.

У паэтычнай частцы нумара варта адзначыць «Печаль» Ізяслава Катлярова (урывак з паэмы «Ученик вечности») — роздум-дыялог, дзе лірычны герой шукае адказы на адвечныя, анталагічныя пытанні. Развагі пра жыццё, смерць, душу, веру, час звычайна вельмі падобныя, нягледзячы на адметнасць індывідуальнасці, але ў І. Катлярова, здаецца, атрымаецца выклікаць у большасці чытачоў адпаведны настрой, заклапочанасць праблемамі быцця. Спрыяе гэтаму форма і сінтаксіс верша — онлайн-размова з самім сабой, перапытванні, самаўдакладненні, — а таксама выкарыстанне аксюмаранаў і супрацьпастаўленняў. Галоўны герой асэнсоўвае: «одно и то ж, что бездна глуби, / что бездна вечной высоты…»; «Ну вот и разум зло хохочет. / Он вновь такой и не такой. / В нём бездна бездной быть не хочет / — быть захотела высотой».

Кранаюць і асобныя вобразы ў вершах А. Бадака, З. Марозава. Але ў новым «Нёмане» проза прыкметна пераважае над паэзіяй: гэта і аповесць Р. Дзяйкун «Копец», прысвечаная часам Айчыннай вайны, беларускай прадбачлівасці ды ратавальнай місіі бульбы; апавяданне З. Дудзюк «Зона», дзе выяўляецца небяспека прязмернага захаплення навукай, апавяданне «Ворон ждал» Л. Шофмана, дзе «сярэдні савецкі чалавек» ператвараецца ў бадзягу праз крыўду на каханую жанчыну. У супрацьвагу згаданым творам, кожны з якіх завяршаецца смерцю, — аповесць У. Ліпскага «Солнце над головой»: аптымістычныя лісты да маленькага ўнука, якія пішуцца ад нараджэння хлопчыка да яго сямігоддзя.

У нумары таксама змешчаны вершы П. Сіманава і А. Хітрова, артыкулы Т. Шамякінай, А. Маліноўскага, П. Платонавай, эсэ В. Грышкаўца, пераклад «Апошняй са слуцкіх князёў» Ю. І. Крашэўскага і артыкул А. Марціновіча, прысвечаны творчасці А. Кулакоўскага.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Чатыры старонкі шчасця



Апошнюю за мінулы год «Маладосць» варта ўзяць у рукі, перадусім, дзеля чатырох старонак, тры з якіх належаць вершам Насты Кудасавай і адна, прытым апошняя, — Пятру Васючэнку.

Перадnавагоднне расстанне з «Маладосцю» адбылося весела — дзякуючы «Клубу студэнцкага гумару» і яго «перманентнаму дзяжурнаму» Пятру Васючэнку. Цудоўны пісьменнік, якога сапраўды хочацца чытаць, яшчэ і выкладчык. А ў прафесіі гэтай выжываюць толькі моцныя, узброеныя самай вострай і дзейснай зброяй — гумарам. Пятро Васільевіч рупна збірае студэнцкія перлы і складае з іх карціны, над якімі можна пасмяяцца ці, па жаданні, паплакаць.

Наста Кудасава — асоба незалежная. Адзінае, да чаго яна можа абвесціць прыналежнасць, — гэта паэзія. Мне спадарыня Наста ўяўляецца белай лілеяй у антычных водах. У вершах — тая ж чысціня і п'янкі водар, ад якога кругам ідзе галава, а потым раз! — і ты ўжо плёхкаешся ў глыбокіх паэтычных вірах. Для тых, хто ўмее плаваць, — адно задавальненне. Тут дарэчы прыгадаць зборнік «Рыбы» Насты Кудасавай, які выйшаў летась у серыі «Маладая паэзія Беларусі»: вельмі раю шаноўным чытачам! Паэзія, якую так і карціць назваць «сапфічнай», зацягвае. З аднаго боку — глыбіня, з іншага — віртуознае жангліраванне словамі. Нейк падчас гутаркі пра паэзію Насты Кудасавай мой суразмоўца задаўся пытаннем: «Калі ўжо цяпер яна піша так, то што будзе далей? Няўжо — немінучы спад ці тупік?» Наўрад ці, але тым цікавей чакаць новых вершаў. Частка іх і надрукаваная ў апошнім мінулагоднім нумары часопіса «Маладосць». Цікава, што калі раней паэтка разлівалася ў вершах каханнем і — кажучы «па-школьнаму» — лірычная гераіня растваралася ў гэтым пачуцці, то цяпер, хоць большасць вершаў прарасла з гэтай жа тэмы, гераіня выразна заяўляе пра сябе, што бачна па назвах вершаў — «Анастасія», «Кудаса».

Пачынаецца ж нумар з імя Аляксея Кулакоўскага, першага галоўнага рэдактара «Маладосці». Сёлета яму, як піша часопіс, «сотка». А. Кулакоўскага часопіс ушанаваў двойчы: даў скан дакумента, які сведчыць пра прызначэнне «Кулакоўскага Аляксея Нікалаевіча» на высокую пасаду, і надрукаваў артыкул Ціхана Чарнякевіча, дзе распавядаецца пра цяжкія для Кулакоўскага часы, што пачаліся ад 1950-х, а па сутнасці, размова ідзе ўвогуле пра змрочныя часы і пісьменнікаў у ім. «Эти времена плоховато себя чувствую, потому что делаю то, что претит совести: режу сам себя, удаляю находки, детали и вставляю демагогию, декларативные протезы», — пад словамі Аляксея Кулакоўскага маглі б падпісацца многія.

Процівагай да невясёлых рэчаў — вясёлае інтэрв'ю з Алёнай Беланожка, згатаванае на «Кухні» Машы Дуброўскай. Яго трэба чытаць дзеля «рэцэпта выдатнай прозы», з якім я пагаджуся: займець добрага рэдактара, пісаць сюжэты і «тэкст павінен быць пазітыўным… Не трэба расказваць, як вырошчваць бегонію, калі яна пастаянна ў вас сохне».

А да празаікаў у мяне ўзніклі два пытанні. Першае: нашто ў тэкстах столькі шматкроп'яў? Калі вы лічыце, што гэтым надаяце глыбіню і шматзначнасць сваім словам, то памыляецеся: глыбіню надае само слова, а не безліч кропачак вакол яго. Другое: ці перачытваеце вы самі тое, што напісалі?

Цікавая паэма Святланы Куль «Ян і Мар'яна». Галоўная гераіня Мар'яна — з магнацкага роду, жанчына заможная, але плачуць і багатыя: на жанчыне ляжыць праклён «чорнай удавы». Двух мужоў яна пахавала, а тут з'яўляецца патэнцыяльны трэці. Каханне ўспыхвае, жанчына трывожыцца, ідзе да ведзьмаркі і г. д. Класічны набор, а ўсё ж не прыгадаю, каб нехта пісаў у нас пра мезальянс, пры тым, што галоўную партыю вядзе жанчына, а не мужчына. Аднак самым моцным ува ўсёй паэме апынуўся «Эпілог». Напэўна, таму, што ён лаканічны. У астатнім стамляе шматслоўе і залішняя эмацыянальнасць, якая ўласцівая аўтаркам і прымушае некаторых скептыкаў сцвярджаць, што ёсць літаратура добрая і жаночая.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# ЛіМ-панарама. 2013



*Адкрыццё XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.*

Фота Кастуся Дробава



*Удзельнікі VIII Форуму навуковай і творчай інтэлігенцыі краін-удзельніц СНД знаёмяцца з кніжнай выстаўкай у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

Фота Кастуся Дробава



*«Круглы стол» «Беларусь — Расія: вопыт і перспектывы літаратурнага супрацоўніцтва».*

Фота Кастуся Дробава



*Падчас адкрыцця кнігарні «Книги & книжечки».*

Фота Кастуся Дробава



*Наведанне пісьменніцкай дэлегацыяй Мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой».*

Фота Яўгена Пясецкага



*Калядны дабрачынны баль кнігі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

Фота Кастуся Дробава


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Наклад — 2838.
Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 30.01.2014 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 25.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686